BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 10.00 yearly.
„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# МАКСІМ ТАНК

## ЛЯЎРЭАТАМ ЛЕНІНСКАЙ ПРЭМІІ 1978 ГОДУ

22 красавіка сёлета, у дзень нараджэньня Леніна, была апублікаваная пастанова ЦК КПСС і Савету Міністраў СССР „Аб прысуджэньні Ленінскіх прэміяў у галіне літаратуры, мастацтва й архітэктуры". Сярод новых ляўрэатаў гэтых прэміяў знаходзім і Максіма Танка. Прэмія прысуджаная яму за кнігу вершаў „Нарачанскія сосны" ў перакладзе на расейскую мову Якава Хелемскага. Ужо тое, што прэмія прысуджаная за кнігу расейскіх перакладаў Танкавых твораў, а не арыгіналаў, мае бясспрэчную русыфікацыйную зымову й не дае асноваў беларускаму паэту асабліва з гэтае ўзнагароды цешыцца.

Сам факт гэтага ўзнагароджаньня ў біяграфіі Максіма Танка зьява зусім будзённая. Рознага роду партыйных і дзяржаўных узнагародаў, у тым ліку й ня менш важных за Ленінскую прэмію, у Максіма Танка хоць адбаўляй. Цяжка навет пералічыць іх з памяці: два ордэны Леніна, ордэн Чырвонага Сьцягу, два ордэны Працоўнага Чырвонага Сьцягу, колькі мэдаляў, ахвіцэрскі Крыж Адраджэньня Польшчы („Полёнія Рэстытута"), ляўрэат Дзяржаўнае Прэміі СССР, Літаратурнай Прэміі імя Янкі Купалы, Дзяржаўнай Прэміі БССР імя Янкі Купалы ды, наўзьверх усяго, годнасьці Народнага Паэты Беларусі й Гэроя Сацыялістычнай Працы.

Затое зьявай ані ня будзённай тое, што апошняя Танкава ўзнагарода, трэба думаць, ня выпадкова, зьбеглася ў часе з найцяжэйшым паднявольным пэрыядам у гісторыі беларускага народу, якому Камуністычная партыя, што ўзнагародзіла Максіма Танка Ленінскай прэміяй, абвесьціла прысуд поўнай і хуткай нацыянальнай сьмерці. Вось чаму гэтая ўзнагарода Максіма Танка павінна быць разгляданая, як акт самага зьдзеклівага й крывадушнага цынізму і ў дачыненьні да паэты, і да беларускай літаратуры, і да беларускага народу наагул. На добры лад, гэтай сваёй узнагароды Максім Танк мусіў-бы саромецца.

Аўтар гэтага артыкулу быў у блізкіх і прыязных дачыненьнях з Максімам Танкам яшчэ тады, калі ў Вільні ў 1935 годзе Танк толькі пачынаў сваё літаратурнае жыцьцё. І аўтар гэтага артыкулу, і некаторыя іншыя віленскія Беларусы, хоць і былі супраць тагачаснай палітычнай пазыцыі Максіма Танка, шчыра жадалі яму творчага росту й памагалі, чым маглі, на ягоным нялёгкім паэтычным шляху. Гэтую творчую дапамогу Максім Танк шчыра цаніў і зь непадробнай удзячнасьцяй шчодра зь яе карыстаў. Вось адно з пацьверджаньняў гэтага плённага зь ім супрацоўніцтва: у мяне й да сяньняшняга дня перахоўваецца фотаздымка Максіма Танка з гэных далёкіх часоў, на адвароце якой Максім Танк собскаручна выпісаў наступныя словы: **„Стасю — як успамін супольнай працы і змаганьня за свабоду, за права творчага жыцьця роднай паэзіі — Максім. Вільна 1937 г. 20 сакавіка".** Гэтая нашая творчая дапамога й супрацоўніцтва сьветчаць таксама й пра тое, што ўсе мы песьцілі надзею, што Максім Танк галоўную частку свайго нязвычайнага паэтычнага дару аддасьць для дабра й славы роднай Беларусі. І Максім Танк гэтыя нашыя спадзяваньні апраўдваў.

На даваенныя віленскія й паваенныя менскія гады шмат цікавага сьвятла кідае апублікаваны ўпяршыню ў 1967 годзе ў чатырох першых кнігах „Полымя" й перадрукаваны ў 4-ым томе Танкавага „Збору твораў" таго-ж году выданьня дакумэнтальна-мэмуарны дзёньнік Максіма Танка „Лісткі каляндара". Пад датай 10 лютага 1938 году, у сувязі із змаганьнем у вабароне роднае мовы ў віленскіх гадох, знаходзім у гэтым дзёньніку наступны Танкаў запіс:

**„Трэба будзе падумаць над вершам „Родная мова".**

**Калі-б мы цябе, мова, ня зьберaглі**
**Для нашых дзяцей на пакутнай зямлі,**
**Хай выкрасьляць нас з пажыцьцёвага сьпіску,**
**Імёны з магільных сатруць абэліскаў . . .**

**Пакідаю гэта як запеў, да якога некалі вярнуся, як тэму, якую трэба будзе разьвіць. А можа гэту страфу зрабіць заключнай?"**

Наколькі мне ведама, да гэтага „запеву" або „страфы заключнай" Максім Танк пазьней не вярнуўся. Былі ўжо гэтыя ягоныя словы моцна нясугучнымі пазьнейшым, пасьля 1967, гадом у БССР. І таму гэныя пагрозьлівыя словы — „Хай выкрасьляць нас з пажыцьцёвага сьпіску. Імёны з магільных сатруць абэліскаў" — сяньня завісьлі над Максімам Танкам як прысуд паэты над самым сабой . . . Сяньня можна яшчэ ў паэзіі выказваць любасьць да роднае мовы, сваю ёй вернасьць, але каб кідаць гнеўныя праклёны на тых суродзічаў, што зрадзілі сваёй роднай мове й пагналіся за мовай „вялікага расейскага народу", гэтага сяньня нельга пачуць у беларускай падсавецкай паэзіі.

Калі напачатку 60-ых гадоў перад беларускай літаратурай зьявіліся некаторыя магчымасьці вызваленьня ад закасьцянелых ідэйных догмаў і мастацкіх канонаў сталінскае эпохі, Максім Танк першы ў беларускай паэзіі выразна вызначыў і сфармуляваў свае новыя ідэйныя й мастацкія пазыцыі. У праграмным вершыку 1961 году, але ўпяршыню надрукаваным напачатку 1962 году „Кесарава-Кесару" Максім Танк пры дапамозе ведамае евангелічнае формулы заявіў, што ён, аддаўшы ў моц канечнасьці неабходную даніну Кесару — партыі й ейнай надзённай палітыцы, перш-наперш і галоўна служыць Богу паэзіі — запраўднаму, ніякім догмам непадлегламу мастацтву. І не зважаючы на завайстрэньне палітычных абставінаў пазьнейшых гадоў, калі пачалося ўзноў настырлівае патрабаваньне ад літаратуры службовасьці ані ня меншае, а ў некаторых выпадках яшчэ й большае, чымся за сталіншчынай, Максіму Танку ўдавалася ўсё-ж аж да леташняга году з гэных сваіх пазыцыяў, вызначаных у праграмным вершыку 1961 году „Кесарава-Кесару", ня зыходзіць.

На працягу цэлага пазьнейшага пятнаццацігодзьдзя, апрача гэнай казённай даніны Кесару, спад пяра паэты выходзілі многія проста гэніяльныя паэтычныя пэрлы — вершы на самыя розныя жыцьцёвыя й інтымныя тэмы, у тым ліку й цімала шчырых патрыятычных вершаў, насычаных гарачай любасьцяй да ўсяго свайго роднага, беларускага. Мы вельмі часта, і ў друку, і ў радыёвых гутарках, з радасьцяй адзначалі гэныя Танкавы дасягненьні, уважаючы, што яны й дасягненьні ўсяе беларускае паэзіі.

Але вось летась у кастрычніцкім нумары „Полымя" надрукаваў Максім Танк чародны вялікі гадавы цыкль новых вершаў, у якіх ужо гэнае служэньне запраўднай паэзіі прагучэла даволі слаба. Бальшыня вершаў леташняга цыклю ня выклікала ўжо ніякага асаблівага ўражаньня за выняткам прыкрага расчараваньня. Асабліва трывожнае тое, што ў гэным цыклі бадайшто зусім зьніклі гэтак частыя раней у Танка вершы на беларускія патрыятычныя тэмы, у якіх услаўляліся родны край, родная песьня, родная матчына мова. Наагул-жа Танкавы вершы леташняга году — гэта раптоўнае зьніжэньне паэтычнага ўздыму й прытупленьне ягонага, заўсёды сьвежага раней, натхненьня. Шукаючы прычынаў гэтае зьявы, нельга вызваліцца ад думкі, што прычынаю ўсяго гэтага паэтычнага спаду цяжкая й удушлівая палітычная й маральная атмасфэра, што асабліва згусьцілася ў леташнім годзе ў сувязі з 60-мі ўгодкамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, прыняцьцем новай савецкай Канстытуцыі ды афіцыйным абвешчаньнем сфармаваньня адзінага савецкага народу з з адзінай савецкай культурай і, у практыцы, з адзінай расейскай мовай.

Гэткія вось палітычныя абставіны й зроджаная імі гэная ўдушлівая маральная атмасфэра спадарожнічалі прысуджэньню Максіму Танку Ленінскай прэміі. У гэтым глыбака трагічная вымова гэтай узнагароды.

У газэце „Літаратура і Мастацтва" за 5 травеня сёлета зьмешчанае інтэрвю з Максімам Танкам з нагоды ягонага ўзнагароджаньня Ленінскай прэміяй. Ужо сам загаловак інтэрвю — „Лічу сябе змабілізаваным" — мае нядвузначную вымову. У вадказах на стаўляныя ў інтэрвю супрацоўнікам газэты Уладзімерам Анісковічам пытаньні Максім Танк удакладняе, на якія заданьні лічыць ён сябе змабілізаваным. Заданьні гэтыя сфармуляваў ён у фінальных словах інтэрвю гэтак: **„І ўсе мы, у тым ліку й я асабіста, лічым сябе змабілізаванымі як мага глыбей адлюстроўваць жыцьцё народу, яго гераічныя справы, подзьвігі на ўсіх франтох стваральнай працы й барацьбы за мір, за ажыцьцяўленьне грандыёзных плянаў нашай партыі".** Не сакрэт, што адным з найбольш „грандыёзных плянаў" партыі й асабіста ейнага сяньняшняга правадыра таварыша Леаніда Брэжнева — русыфікацыя нерасейскіх народаў, у тым ліку й народу беларускага.

Незайздроснае заданьне, якое ўскладае на сябе Максім Танк і да выкананьня якога заклікае ўсіх іншых паэтаў і пісьменьнікаў. У гэтым сваім урачыстым асьветчаньні ўсе свае здольнасьці й талент аддае ён вылучна Кесару — партыі, не пакідаючы нічога для Бога паэзіі. Гэтым самым абвесьціў ён самагубны прысуд над самым сабой, як чалавекам, паэтам і Беларусам. Але выкананьне гэтага прысуду пакульшто яшчэ ў руках Максіма Танка. І тут адзін толькі выхад: цьвёрда й канчаткова, за прыкладам многіх сяньня гэткіх, як і ён, у Савецкім Саюзе, перайсьці на пазыцыі дысыдэнцтва. Само сабой зразумела, што падобны крок мог-бы скончыцца непрадбачанымі для самога Танка балючымі вынікамі, але прынамся быў-бы выратаваны ягоны гонар, быў-бы зроблены ўзапраўды гэраічны вычын для карысьці й славы шматпакутнага беларускага народу й ягонае будучыні. Трэба ведаць, што годнасьць дысыдэнта, у разуменьні паняволеных народаў Савецкага Саюзу, сяньня найвышэйшая годнасьць!

**Станіслаў Станкевіч**

# "СУВЭРЭННАЯ" ДЫ БЕЗ СВАЙГО КАЛЯНДАРА!?

Як ведама, каляндары бываюць розныя: настольныя перакідныя, насьценныя-адрыўныя, настольныя калядары-кніжкі, зводныя каляндары. . . Добра апрацаваны ды датарнаваны да патрэбаў чытача каляндар — гэта свайго роду народная энцыкляпэдыя, каштоўны даведнік, што служыць для штадзённага практычнага карыстаньня.

Адам Мальдзіс у сваім цікавым артыкуле пра першыя каляндары Беларусі, зьмешчаным у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 7 жнівеня 1970 году, пісаў, што „першыя беларускія каляндары зьявіліся толькі ў пачатку XX стагодзьдзя". У запраўднасьці-ж першы беларускі друкаваны каляндар выйшаў у сьвет ажно 456 год таму, бо ў 1522 годзе, у Вільні. А выдаў яго ня хто іншы, як наш славуты першадрукар Доктар Франьцішак Скарына (гл. М. Агнявіца: „БССР і беларускі каляндар", „Беларус", № 189, 1973). Таму Беларусы павінны навет ганарыцца тым, што ў выданьні каляндароў у Ўсходняй Эўропе яны былі піянэрамі.

Ад таго часу ў Беларусі выдавалася шмат розных каляндароў у беларускай ды іншых мовах у залежнасьці ад палітычных абставінаў. Выдаваліся беларускія каляндары і ў „Нашаніўскім пэрыядзе", і ў часе Першае сусьветнае вайны, і пасьля яе пад Польшчай. Пра гісторыю аднаго з такіх адрыўных каляндароў, выдаваных у Вільні ў міжваенным пэрыядзе, расказала, між іншага, у Беластоцкай „Ніве" Л. Войцікава („Ніва", 26 сьнежня 1976), якая брала актыўны ўдзел у ягоным апрацаваньні ды распаўсюджаньні. Спачатку тыражы каляндароў былі даволі абмежаваныя. Аднак з часам само жыцьцё паказала вялікую вартасьць і значаньне каляндара ў роднай мове, шырокую патрэбу ў ім, і таму з кажным годам і аж да Другой сусьветнай вайны тыраж каляндароў бесьперапынна ўзрастаў, дасягаючы 50.000 экзэмпляраў, што на тагачасныя абставіны было цімалым дасягненьнем.

У Савецкай Беларусі ў гадох беларусізацыі выходзілі як настольныя каляндары-кніжкі (прыкладам, „Беларускі работніцка-сялянскі каляндар" на 1924 год), гэтак і каляндары адрыўныя. Але выданьне іх было спыненае яшчэ задоўга да выбуху вайны ды не адноўленае й па заканчэньні яе. Ад таго часу Беларусы змушаныя карыстацца каляндарамі, выдаванымі ў расейскай мове.

Паза межамі БССР, як ведама, беларускія каляндары выдаюцца на эміграцыі і ў Беласточчыне. Як адны, гэтак і другія каляндары вельмі цікавыя, хоць і розьняцца між сабою, што зусім зразумела, бо выдаюцца ў спэцыфічных абставінах ды прызначаныя для розных чытачоў. Гэтак, прыкладам, у беларускіх праваслаўных каляндарох-кніжках, што выдаюцца на эміграцыі, мы знойдзем, апрача самога каляндара, архіпастырскія пасланьні, тэксты малітваў, весткі пра беларускіх сьвятых, літаратурныя нарысы, артыкулы зь гісторыі Беларусі й Беларускай Праваслаўнай Царквы, паэтычныя творы як рэлігійнага, гэтак і сьвецкага характару, сьпісы важных датаў і памятных угодкаў на кажны год, нататкі пра рэлігійныя элемэнты ў беларускай мастацкай літаратуры й у беларускай народнай творчасьці, весткі з жыцьця й дзейнасьці розных парахвіяў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на эміграцыі, нэкралягічныя нататкі й да г. п.

У беластоцкіх-жа каляндарох, якія выдаюцца рэгулярна, пачынаючы ад 1957 году й якіх выйшла ўжо 22, з агульным тыражом каля 130 тысячаў экзэмпляраў, зьмест крыху іншы, прытарнаваны да абставінаў, у якіх жывуць Беларусы ў Польшчы. Прычым зьмест гэты й форма каляндара не заўсёды былі аднолькавыя, яны часта мяняліся. Гэтак, прыкладам, першыя беларускія каляндары Беласточчыны — гэта даведнікі, у якіх пераважала сельскагаспадарская й культурная інфармацыя з націскам на беларускае жыцьцё. Пасьля ўводзіліся мадыфікацыі: прынцып каляндара-даведніка заменьваўся прынцыпам энцыкляпэдычнага падбору вестак пра Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства ў Польшчы. Напачатку 60-х гадоў рабіліся спробы спалучэньня выдаваньня „Беларускага Каляндара" зь іншымі выдавецкімі патрэбамі беларускага грамадзтва ў Польшчы. У выніку зьяўляліся каляндары-зборнікі сцэнічных твораў, каляндары навукова-літаратурныя зборнікі, каляндары-сьпеўнікі, каляндары-кніжкі нарысаў або каляндары-чытанкі зь гісторыі Беларусі. У 1975 годзе, з мэтаю, каб чытачы самі маглі пастанавіць, якім павінен быць іхны каляндар, у газэце „Ніва" была ўведзеная адмысловая рубрыка, дзе кажны мог выказаць сваю думку ў гэтым пытаньні. Як і трэба было спадзявацца, дыскусія, што завязалася, была вельмі цікавая й плённая, хоць у некаторых пытаньнях думкі й разыходзіліся, што зусім нармальна. У вагульным-жа чытачы згаджаліся, што каляндар павінен заставацца даведнікам: палітычным, нацыянальным, культурным, гаспадарскім, тварыскім. Даведнікам, які перш-наперш паказваў-бы новае й важнае на дадзены год; ён павінен быць максымальна прыдатны да штадзённага карыстаньня, „ляжаць, — як сказаў адзін чытач, — побач буханкі хлеба", „мець усеабдымную сувязь з жыцьцём". Падчырквалася таксама, каб падрыхтоўваньнем матарыялаў да каляндара займалася рэдакцыйная калегія, у якую ўваходзілі-б спэцыялістыя з розных галінаў жыцьця, каб існавала сталая рэдакцыя яго ды каб ён рыхтаваўся загадзя, колькі месяцаў перад годам, для якога ён прызначаны.

Апошнім часам зьмест і фармат беларускага каляндара ў Польшчы менш-больш усталяваўся ды, апрача рэлігійнага каляндара паводля новага й старога стылю, знаходзім у ім шмат вестак зь дзейнасьці БГКТ і з жыцьця Беларусаў у Польшчы, а таксама такія разьдзелы, як „Зь мінулага", „Люблю наш край", „У Беларускай ССР", „З роднага палетку", „Для нашых сьпявакоў", „Факты й лікі", „Адыйшлі ад нас" ды шмат іншых цікавых і зьмястоўных матарыялаў.

Варочаючыся-ж да каляндара ў беларускай мове ў БССР, трэба сьцьвердзіць, што не зважаючы на ўпорыстыя дамаганьні беларускага грамадзтва, выданьне яго дасюль ня было адноўленае, пра што цірааз пісалася ўжо ў рэспубліканскім друку. Гэтак, прыкладам, яшчэ ў ліпені 1967 году газэта „Літаратура і Мастацтва" паведамляла, што ліст чытача ў рэдакцыю, у якім ён уздымаў пытаньне аб выданьні каляндароў у беларускай мове, яна паслала на разгляд у Дзяржаўны камітэт па друку пры Савеце Міністраў БССР і што „рэдакцыя атрымала адказ за подпісам намесьніка старшыні камітэту А. Барушкі", у якім ён пісаў, што „выдавецтва 'Беларусь' з 1968 году аднаўляе выпуск настольнага перакіднога каляндара на беларускай мове" і што ў ім „будуць адлюстроўвацца ўсе важнейшыя падзеі зь гісторыі рэспублікі, указвацца знамянальныя даты" (гл. „ЛіМ", 7 ліпеня 1967: „Каляндар будзе").

Не зважаючы, аднак, на запэўненьні Барушкі, выпуск каляндара адноўлены ня быў, бо за тры гады, у вадным із жнівенскіх нумароў „Літаратуры і Мастацтва" знаходзім ліст у рэдакцыю ад таго самага чытача (Ул. Зянько — В. С.), у якім ён, між іншага, зазначае: „Пішу пра гэта ня першы раз. Пытаньне аб неабходнасьці выдаць, нарэшце, беларускі каляндар колькі разоў падымалі, абмяркоўвалі і ... забывалі. Мне паведамлялі адтуль, што для выданьня каляндара ў нас ... няма паліграфічных магчымасьцяў" („ЛіМ", за 28 жнівеня 1970). Аўтар ліста, як і трэба было спадзявацца, ня даў веры падобнаму цьверджаньню ды, расказаўшы, як ён „нядаўна ў вёсцы, у ваднаго селяніна выпадкова ўбачыў лісток з каляндара 1913 году выданьня" ў польскай мове, паставіў пытаньне: „Дык няўжо ў 1913 годзе паліграфічная база была больш магутная, чым цяпер?" „Думаецца, — заключаў ён, — што аднаго настольнага перакіднога каляндара неяк выдадзенага на беларускай мове, мала для Беларусаў, высокаразьвітай сацыялістычнай культурай якіх сяньня ганарыцца ўся краіна". Ліст Ул. Зянька ня быў адзіночны. Колькі тыдняў пасьля быў зьмешчаны ліст яшчэ аднаго чытача, які „абедзьвюма рукамі галасаваў" за прапанову. Пасылаліся лісты й у рэдакцыі іншых газэтаў і часапісаў, хаця ў друк траплялі толькі адзінкавыя зь іх.

Здавалася-б, што пасьля ўсяго гэтага справа зь беларускім каляндаром у БССР будзе канчальна разьвязаная. Нажаль, гэтак ня сталася. Праўда, у 60-х гадох Галоўнае ўпраўленьне пры Савеце Міністраў БССР пачало выдаваць **зводны** каляндар: „Каляндар славутых і памятных дат па гісторыі Беларусі", у якім падаецца шмат цікавых і памятных дат па гісторыі Беларусі", у якім падаецца шмат цікавых і памятных датаў пра асноўныя падзеі й факты з грамадзка-палітычнага й эканамічна-культурнага жыцьця беларускага народу, хаця бальшыня зь іх і датычыцца да пэрыяду савецкага. Аднак выданьне **звычайнага беларускага** каляндара не адноўленае дасюль яшчэ, пра што сьветчыць ліст пісьменьніка Станіслава Шушкевіча ў рэдакцыю „Літаратуры і Мастацтва" за 20 студзеня сёлета, у якім аўтар піша: „Мы ў рэспубліцы цяпер карыстаемся каляндаром, выдадзеным у Маскве. Ён неблагі, але, скажам, такія астранамічныя зьвесткі, як узыход сонца, у ім не адпавядаюць Беларусі. Я не кажу ўжо аб тым, — піша далей аўтар, — што ў гэтым каляндары мала пішацца пра нашу рэспубліку, пра яе культуру, літаратуру, мастацтва, эканоміку й г. д. Гэта натуральна, бо ўцісьнуць у вадно выданьне зьвесткі, якія тычацца ўсіх саюзных рэспублік, немагчыма. Вось чаму большасьць зь іх выдае свае ўласныя каляндары на роднай мове з улікам спэцыфічных і прыродных асаблівасьцяў свайго краю". І канчае свой ліст Станіслаў Шушкевіч гэтак: „Думаю, што нам трэба адрадзіць выданьне свайго каляндара на беларускай мове. Упэўнены, што ён знойдзе шырокага чытача, стане

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# ВОСЬМАЯ ГАДАВАЯ КАНВЭНЦЫЯ
## РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЯЎ



**За беларускім сталом падчас сьнеданьня. Зьлева направа: Галіна Русак, Ірэна Рагалевіч, Рая Станкевіч, Вітаўт Кіпель, Сэнатар Робэрт Дол, сп-ня Міна Шу й сп-ва Васіль і Долёрэс Мельяновічы**

Канвэнцыя адбывалася ад 26 да 28 травеня ў горадзе Пітсбургу штату Пэнсыльвэнія. У працах Канвэнцыі прыймалі ўдзел дваццаць пяць нацыянальнасьцяў зь беларускімі дэлегатамі ад штатаў Огаё, Мэрылэнд, Нью Ёрк, Нью Джэрзі й Пэнсыльвэнія, якія прадстаўлялі восем беларускіх рэспубліканскіх арганізацыяў. Апрача нацыянальных клюбаў, у Канвэнцыі ўдзельнічалі прадстаўнікі Цэнтральнага Рэспубліканскага Камітэту з Вашынгтону, старшыні штатавых рэспубліканскіх арганізацыяў Пэнсыльвэніі, Нью Джэрзі, Огаё й Нью Ёрку ды шмат палітыкаў з Вашынгтону й некаторых штатаў. Праца Канвэнцыі праходзіла ў розных сэкцыях ды сталых камітэтах: Рэзалюцыйным (сп-чня Рая Станкевіч), Адукацыйным (Д-р Вітаўт Кіпель), Стратэгіі выбараў (Васіль Мельяновіч), Людзкіх правоў (Янка Раковіч) ды іншых.



**Падчас Прэсавай Канфэрэнцыі. Зьлева направа: Вітаўт Кіпель, Рая Станкевіч, былы Губэрнатар Тэксасу Джон Конэлі, Янка Раковіч і Юльян Немчык**

Упярамешку з працоўнымі сэсіямі на Канвэнцыі было прачытана колькі дакладаў: сэнатарам Робэртам Долам, ведамым сацыялёгам і знаўцам нацыянальных групаў Амэрыкі праф. Майкам Новакам, былым амбасадарам ЗША ў Пэкіне, дырэктарам ЦРУ Джорджам Бушам, былым губэрнатарам Тэксасу Джонам Конэлі й віцэ-старшынём Цэнтральнага Камітэту Рэспубліканскай Партыі сп-няй Мэры Крысп. Асноўнай мэтай Канвэнцыі было прааналізаваць патрэбы й праблемы нацыянальных групаў як нутраныя, чыста амэрыканскага значаньня, гэтак і пагляды нацыянальных групаў на сяньняшнюю замежную палітыку Прэзыдэнта Картэра, апрацаваць адпаведныя рэзалюцыі, якія адлюстроўвалі-б патрабаваньні гэтых групаў як падчас выбараў 1978 году, гэтак і на наступны год. Даклады былі прытарнаваныя да тэматыкі працоўных сэсіяў.

Гэтак **Сэнатар Робэрт Дол** асабліва шырака засярэдзіўся на замежнай палітыцы Прэзыдэнта Джымі Картэра й на пытаньні абароны людзкіх правоў. Ён сказаў: „Нашая замежная палітыка сяньня — гэта шэраг уступак Саветам. Спачатку мы абрэзваем наш ваенны бюджэт, а тады кажам Саветам — давайце размаўляць. Гэта нонсэнс. Мы павінны гаварыць, аднак не павінны зьмяншаць нашага патэнцыялу. Прэзыдэнт Картэр прыгожа гаворыць: гэтак ён гаварыў падчас выбарнае кампаніі 1976 году, аднак ён канкрэтнага ня робіць нічога. Адсутнасьць палітычнага кіраўніцтва — вось азнака нашае сяньняшняе палітыкі", — працягваў Сэнатар Дол. Пераходзячы да праблемы людзкіх правоў, Сэнатар Дол зазначыў, што ня можа быць дамаганьняў людзкіх правоў без правоў палітычных. Права паняволеных народаў на самавызначэньне й незалежнасьць — абсалютны спадарожнік правоў людзкіх.

Дарэчы, прамова Сэнатара Дола ўвесь час была перарываная гучнымі апладысмэнтамі аўдыторыі звыш 250 чалавек. Далей, паклікаючыся на Гэльсінгскую ўмову, Сэнатар Дол казаў: затым, што парушэньням Савецкім Саюзам гэтае ўмовы ня відаць канца, Задзіночаныя Штаты Амэрыкі павінны ўжыць канкрэтныя захады: спыніць культурны абмен із Савецкім Саюзам ды поўнасьцяй перагледзець эканамічную палітыку ў дачыненьні да СССР. Ніякіх спыненьняў ні ваенна-тэхнічных дасьледваньняў, ніякіх уступак у тыпах узбраеньня не павінна быць у перамовах із Савецкім Саюзам, — закончыў сваю прамову Сэнатар Дол.

Былы амбасадар Задзіночаных Штатаў у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў і былы дырэктар ЦРУ **Джордж Буш** спыніўся на тых аспэктах амэрыканскае замежнае й нутранае палітыкі, якія зьмененыя Прэзыдэнтам Картэрам, як прыкладам, тэхнічныя дасьледваньні новых самалётаў, разгубленасьць у афрыканскай палітыцы, перагляд палітыкі ў Азіі ды асабліва нясталасьць у дамаганьні пашанаваньня людзкіх правоў. Асабліва завайстрыў сваю прамову Джордж Буш на паглядах сяньняшняе адміністрацыі Прэзыдэнта Картэра ў дачыненьні да Фэдэральнага Бюра Расьсьледваньня (ФБАЙ) і Цэнтральнага Кіраўніцтва Амэрыканскае Разьведкі. „Дакуль можа йсьці сяньняшняя палітыка, калі мы плянуем раскрыць усе сакрэты асноўных нэрваў амэрыканскае дзяржаўнае сыстэмы? — паставіў пытаньне Джордж Буш і, адказваючы на гэтае пытаньне, сказаў — да далейшага разбураньня нашае палітычнае сыстэмы на нашую-ж шкоду".

Былы губэрнатар штату Тэксас **Джон Конэлі** паддаў моцнай крытыцы слабавольнае ктраўніцтва ў Белым Доме ды часам нат зьбянтэжанасьць ураду Прэзыдэнта Картэра ў дачыненьні да Савецкага Саюзу. Ён зазначыў, што ў выбарах сёлета трэба імкнуцца выбраць рэспубліканскі Кангрэс ЗША, які патрапіў-бы зьмяніць курс амэрыканскае замежнае палітыкі.

Даклад праф. **Майка Новака,** дэмакрата паводля партыйнае прыналежнасьці, быў прысьвечаны значаньню нацыянальных групаў Амэрыкі ў культурным і палітычным жыцьці сяньня. „Як дэмакрат, я мушу падчыркнуць, — казаў ён, — што Рэспубліканская партыя значна апярэдзіла Партыю Дэмакратычную ў тым, што яна мае моцную арганізацыю нацыянальных групаў і прыслухоўваецца да іхнага голасу. У Дэмакратаў нічога падобнага няма", — закончыў свой даклад праф. Новак.

Сп-ня **Мэры Крысп,** віцэ-старшыня Цэнтральнага Камітэту Рэспубліканскае партыі, правяла некалькі працоўных сэсіяў зь кіраўнікамі нацыянальных групаў, якія высоўвалі спэцыфічныя праблемы кажнае нацыянальнасьці.

Рэзалюцыі, прынятыя на Канвэнцыі, будуць надрукаваныя шматтысячнымі тыражамі й будуць разасланыя **ўсім** кандыдатам Рэспубліканскае партыі ад мясцовых да губэрнатараў і сэнатараў. Адным з асноўных пунктаў аднагалосна прынятае рэзалюцыі быў пункт, „што абвешчаньне незалежных дзяржаваў Армэніі, Беларусі, Украіны й г. д. у 1918 годзе — аднезначнае з абвешчаньнем і іхных людзкіх і палітычных правоў, што яны, гэтыя дзяржавы за свае правы змагаліся й што гэтыя правы сяньня павінны быць адноўленыя".

Трэба прызнаць, што сёлетняя Канвэнцыя ў Пітсбургу вырозьнівалася добрай арганізаванасьцяй, выдатным падборам галоўных дакладчыкаў ды спраўнасьцяй працаў камітэтаў. Упярамешку з працоўнымі сэсіямі адбываліся, як звычайна, спатканьні, палітычныя кансультацыі, арганізацыйныя зборкі нацыянальных дэлегацыяў. Гэтак і беларуская нацыянальная група правяла колькі сваіх зборак ды мела спатканьні із Сэнатарам Робэртам Долам, Сэнатарам Пэнсыльвэніі Джонам Гайнцам ды з партыйнымі прадстаўнікамі з Вашынгтону, Кліўленду й Пітсбургу. У працах Канвэнцыі ад Беларусаў прыймалі ўдзел сп-чня Рая Станкевіч, сп. Янка Раковіч, сп-ства Васіль і Долёрэс Мельяновічы і д-р Вітаўт Кіпель, а гасьцямі беларускае дэлегацыі былі сп-чня Ірэна Рагалевіч і сп-ня Галіна Русак.

**Вітаўт Кіпель**

# НА 50-ЫЯ ЎГОДКІ АЛЕГА ДУБЯГІ



Сёлета 14 травеня сп. Алег Дубяга адзначаў свае 50-ыя нарадзіны, якія выпалі якраз на адзін дзень раней, як сьвята Дня Маткі, гэта значыць у сыботу 13 травеня. Прыяцелі Алега пастанавілі сьвяткаваньне ўгодкаў ягонага нараджэньня адлажыць на нядзелю й правесьці яго разам із сьвятам Дня Маткі, каб, ушаноўваючы Дзень Маці, адначасна ўшанаваць і юбілей Алега.

Гэтае падвойнае сьвяткаваньне й адбылося ў нядзелю 14 травня ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Гайлэнд Парку штату Нью Джэрзі. Сьвяткаваньне адбылося вельмі ўдала. Сябры Алега й знаёмыя прапялі яму „Сто год" ды зычылі яму й надалей плённа працаваць на беларускай грамадзкай ніве.

Пры гэтай нагодзе неабходна падаць хоць-бы найважнейшыя факты й мамэнты з жыцьця й дзейнасьці Юбіляра. Алег зьяўляецца выхаванкам Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, што знаходзілася ў Міхэльсдорфе ў Заходняй Нямеччыне. Дзякуючы добрым настаўнікам, з гэтай гімназіі выйшлі кадры патрыётаў, якія сяньня займаюць вялікія становішчы ў беларускім арганізацыйным жыцьці, а таксама й у жыцьці амэрыканскім.

Разам із сям'ёю Алег выэміграваў у Задзіночаныя Штаты Амэрыкі й пасяліўся ў Саўт Рывэры. Але ў хуткім часе быў змабілізаваны ў амэрыканскую армію якраз у часе Карэйскай вайны. З гэтае прычыны апыніўся на карэйскім фроньце й ён, дзе служыў у ваддзеле сувязі. Пасьля дэмабілізацыі вярнуўся назад у Саўт Рывэр. Тут займае ён становішча скарбніка Парахвіі БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку. У цяперашнім часе ён зьяўляецца сябрам БАЗА, Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў ды, наўзьверх усяго — апошнім часам ён выбраў сабе новую прафэсыю — фатографа, якога моцна цэніць беларускае грамадзтва за ўдалае абслугоўваньне з фатаграфічным апаратам розных грамадзкіх і таварыскіх урачастасьцяў.

Ад шчырае душы зычым Алегу Сто Год!

**С. Пчала**

# "СУВЭРЭННАЯ" ДЫ БЕЗ СВАЙГО КАЛЯНДАРА!?

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

зьявай у культурным жыцьці рэспублікі".

Мы таксама ўпэўненыя, што каляндар у беларускай мове нойдзе шырокага чытача ды што ён станецца ўзапраўды зьяваю ў культурным жыцьці краіны. Прыклад іншых рэспублікаў, які падае сам аўтар ліста ў рэдакцыю „ЛіМ", Станіслаў Шушкевіч, пацьвярджае гэтыя мяркаваньні, бо ўзапраўды насьценныя каляндары ў роднай мове разыходзяцца адразу маланкаю. Гэтак, у Грузінскай ССР, зь лікам жыхарства напалавіну меншым, як у БССР, каляндар на 1978 год разыйшоўся ў колькасьці 400.000 экзэмпляраў. Тое самае й у прыбалтыйскіх рэспубліках: Лятуве, Латвіі, Эстоніі дый на Украіне, дзе былі выдадзеныя шматміліённым тыражом ажно два насьценныя каляндары!

Дык у чым-жа тады справа? Мо не стае паперы? Ды дзе там! Яшчэ ў 1966 годзе газэта „Правда" крытыкавала Беларускую ССР за тое, што ў рэспубліцы, у 1965 годзе, аж 57 працэнтаў кніжнае прадукцыі пайшло на дармовыя выданьні. Слабая паліграфічная база? Таксама не, бо як вынікае зь лістоў чытачоў, пытаньне гэтае ў эпосе касьмічных палётаў проста сьмешнае, абсурднае. Дык што-ж тады? Справа ў тым, што апрача ведамае палітыкі Масквы, ськіваванай на поўную русыфікацыю беларускага народу ўсялякімі спосабамі, галоўную адказнасьць за справу каляндара нясуць партыйныя бюракраты, чужы элемэнт, які знаходзіцца на кіраўнічых становішчах у рэспубліцы, які варожа настаўлены да ўсяго беларускага, элемэнт, якога каляндар у беларускай мове абсалютна ня цікавіць. Няхай Беларусы карыстаюцца каляндаром, выдаваным у Маскве на „общепонятном русском языке"! І выходзіць, што Беларуская СССР, дзяржава як быццам-бы „сувэрэнная", прадстаўнікі якой выступаюць на міжнароднай арэне ў вабарону нацыянальных правоў малазнаных афрыканскіх народаў або проста плямёнаў, мусіць задавольвацца каляндаром чужым, выдаваным у цэнтры імпэрыі. Справа была-б камічная, калі-б за ёй ня крылася трагэдыя цэлага народу. Таму беларускае грамадзтва на бацькаўшчыне павінна дамагацца зь яшчэ большай станоўкасьцяй свайго собскага каляндара. Яно павінна падтрымаць прапановы аб аднаўленьні каляндара ў роднай мове, што выстаўляюцца ў рэспубліканскім друку, бо, як ціраз даводзіла практыка, пад напорам дамаганьняў усяго грамадзтва партыйныя вяльможы змушаныя йсьці на ўступкі.

Наступны, 1979 год, „юбілейны" ў рэспубліцы (60-ыя ўгодкі ад абвешчаньня БССР). Значыцца, цудоўная нагода, каб ужо цяпер падумаць пра каляндар у беларускай мове, бо справа зь ім не такая простая, як яна выглядае на першы ўзгляд. 1979-ы год багаты й на іншыя падзеі. Між іншага, на гэты год прыпадаюць 350-я ўгодкі з дня нараджэньня беларускага грамадзкага й царкоўнага дзеяча, пэдагога, пісьменьніка й публіцыстага Сымона Полацкага, якому вельмі шмат удзячная й культура расейскага народу (за год, у 1980-м годзе — трохсотыя ўгодкі па ягонай сьмерці). У 1979 годзе, толькі на месяц студзень прыпадае ажно пару дзесяткоў „круглых" угодкаў, зьвязаных з рознымі галінамі культурна-навуковага й грамадзка-палітычнага жыцьця беларускага народу. Таму спадзяемся, што ўжо напачатку восені сёлета, на паліцах кнігарняў БССР, ды ня толькі БССР, бо міліёны Беларусаў расьцярушаныя па ўсім Савецкім Саюзе, зьвяцца экзэмпляры саліднага, добра апрацаванага, шматспадзяванага каляндара ў беларускай мове, што будуць, нарэшце, зьліквідаваныя „слабасьці" паліграфічнае базы ды знойдзены выхад зь „інэртнага" стану, у якім апынілася справа беларускага каляндара ў „сувэрэннай" Беларускай ССР.

**В. Сенкевіч**

# НОВАЯ РАСЕЙСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ
## "ЗА РАСЕЮ БЕЗ КАЛЁНІЯЎ"

У нядзелю 4 чырвеня сёлета ў Білтмор-Гатэлі ў Нью Ёрку адбылося пашыранае паседжаньне Рады Дырэктароў арганізацыі „Амэрыканцы за Вызваленьне Паняволеных Народаў". Ад Беларусаў у паседжаньні, апрача сябры Рады Дырэктароў гэтае арганізацыі Д-ра Ст. Станкевіча, віцэ-старшыні Выканальнага Камітэту арганізацыі сп-чні Раісы Станкевіч ды сакратара Д-ра Расьціслава Гарошкі, прынялі ўдзел старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелайць і старшыня Ньюёркаўскага Аддзелу БАЗА Мікола Кунцэвіч.

Апрача некаторых пытаньняў бягучай дзейнасьці арганізацыі „Амэрыканцы за Вызваленьне Паняволеных Народаў", была дадзеная магчымасьць супрацоўнічаючым з гэтай арганізацыяй заснавальнікам новай расейскай эміграцкай арганізацыі „За Расею без Калёніяў" абвесьціць пра ейнае заснаваньне. На паседжаньні быў прачытаны афіцыйны Камунікат наступнага зьместу:

„Ад імя групы палітычных новаэмігрантаў із Савецкага Саюзу мы абвяшчаем пра стварэньне арганізацыйнага камітэту „За Расею без Калёніяў". Асноўная мэта арганізацыі сфармуляваная ў назове. Асноўныя прынцыпы пададзеныя ў апублікаваных выступленьнях І. Сінявіна й П. Балдырова, прысьвечаных нацыянальнай праблеме ў СССР: „Аснова для супрацоўніцтва", „Мы адказваем" і „Расейцы — за скасаваньне імпэрыі". Бліжэйшыя заданьні аргкамітэту: І. Прыцягненьне новых сяброў, 2. Выданьне часапісу, 3. Супрацоўніцтва з нацыянальнымі арганізацыямі, што стаяць на пазыцыі антыкамунізму й антыімпэрыялізму, для супольных акцыяў і выступленьняў. Заснавальнікі: І. Сінявін, П. Балдыроў.

Box 217, N. Y. 10314, USA.
4 чырвеня 1978 г. Нью Ёрк".

Пасля абвешчаньня гэтага Камунікату сп. Ігар Сінявін прачытаў даўжэйшае асьветчаньне, апошнюю частку якога, як асабліва важную, гэтта цытуем у перакладзе на беларускую мову:

„. . . У васобах некаторых сваіх прадстаўнікоў расейская нацыя поўнасьцяй перака괄алася пра неабходнасьць адмовы ад каляніяльнага цяжару, пра неабходнасьць зьвярнуць энэргію не навонкі, а ў нутро, і гэтым выратаваць ад выраджэньня расейскі народ, стварыць запраўдную нацыянальную культуру, здабыць магчымасьць стваральнай дзейнасьці.

Расейцы пачынаюць пераконвацца, што змаганьне народаў за сваю самастойнасьць зьяўляецца вырашальнай сілай, якая разам зь імпэрыялізмам вызваліць чалавецтва ад навейшай імпэрыялістычнай ідэялёгіі — ад таталітарнага марксізму. Нацыянальная свабода таксама няўмесная зь любой формай мэсыянскага сусьветнага таталітарызму, як няўмесныя свабода чалавека й нявольніцтва. Імкненьне ж народаў да свабоды й здабыцьця собскага твару ёсьць фактарам гэткай моцы, пры вымярэньні якога даводзіцца карыстацца стагодзьдзямі й тысячагодзьдзямі. Гэты фактар у некалькі разоў перакрывае фактар кляса-

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

# ПАМЯЦІ МІКОЛЫ КУЛІКОВІЧА

У наступным годзе споўніцца дзесяць год, як 31 сакавіка 1969 году ў Чыкага памёр беларускі кампазытар-музыкалёг Мікола Куліковіч. Зь ягонай сьмерцяй беларускае музычнае мастацтва на чужыне страціла свайго найвыдатнейшага прадстаўніка.

„Родная, мілагучная, сьціплая, але надзвычай ласкавая й душэўная беларуская народная песьня, у якой чутны дух народу, ягоная гісторыя, ягоныя вольныя імкненьні, ягоныя векавыя традыцыі", — так пісаў у вадным із сваіх шматлікіх артыкулаў Мікола Куліковіч пра беларускую народную песьню (газэта „Бацькаўшчына" за 25 лістапада 1956 г.). Гэтае замілаваньне да беларускага музычнага фальклёру, запраўдную закаханасьць у яго кампазытар панёс праз сваё жыцьцё.

„Höre fleissig auf alle Volkslieder, sie sind eine Fundgrube der schönsten Melodien und öffnen dir den Blick in den Character der verschiedenen Nationen" („Прыслухоўвайся пільна да ўсіх народных песьняў, яны аснова найпрыгажэйшых мэлёдыяў і адкрываюць табе позірк на характар розных нацыяў") — гэтыя словы кампазытара-рамантыка Шумана маглі-б цалкам належыць і Куліковічу.

Беларускі народ вызначаецца сваёй высокай уроджанай музыкальнасьцяй, а створаныя ім песьні прываблівалі творчую ўвагу шэрагу выдатных майстроў музычнага мастацтва іншых нацыянальнасьцяў (Манюшка, Шапэн, Карловіч, Мусоргскі, Грэчанінаў і інш.). Шмат этнографаў XIX стагодзьдзя прысьвяцілі ўсё сваё жыцьцё зьбіраньню й запісу беларускага музычнага фальклёру (Шэйн, Радчанка, Прохараў, Грыневіч, Шыдлоўскі, Абрамовіч, Гацкі). Але яны пакідалі амаль бяз увагі аналіз гэтага народна-песеннага багацьця і тэарэтычнае вывучаньне яго. Адным з тых, што праліў сьвятло на інтанацыйна-ладавае пабудаваньне беларускае песьні й дапамог вывесьці яе із становішча „terra incognita", зьявіўся Мікола Куліковіч. Ім сабраная наглядная колькасьць беларускіх песьняў, тэарэтычнаму дасьледваньню якіх ён прысьвяціў, паміма шматлікіх артыкулаў, кнігі: „Беларуская песьня" (1940 г.) і „Нарыс гісторыі беларускай музыкі" (1948 г.). Шмат чаго зь ягоных працаў у гэтай галіне чакае на сваё апублікаваньне.

Пяру Куліковіча-музыкалёга належыць кніга „Беларуская савецкая опэра" — праца цэнная, як вынік дасьледваньняў незалежнага, вольнага ад усякіх догмаў музыкаведа. Апрача гэтага, ён напісаў шэраг цікавых і важных паводля тэматыкі артыкулаў, якія надрукаваныя ў беларускіх выданьнях мюнхэнскага Інстытуту Вывучэньня СССР.

Як кампазытар, Мікола Куліковіч займае заслужана пачэснае месца ў слаўнай кагорце беларускіх майстроў музычнага мастацтва ягонага пакаленьня — Аладава, Туранкова, Цікоцкага, Равенскага, Чуркіна, Пукста. Уся Куліковічава творчасьць выплаўленая ў гарне народнага музычнага мастацтва — інтымна-душэўны раманс, каляровыя палотны сымфоніяў ці манумэнтальны эпас опэры. Далёкі ад абстрактнага экспэрымэнтатарства, ён памайстроўску злучыў лепшыя традыцыі славянскай музычнай школы зь інтанацыйна-ладавым багацьцем беларускага народна-песеннага мастацтва, стварыўшы гэтым асновы для заснаваньня беларускага нацыянальнага стылю ў музыцы, непаўторнага ў сваёй сьвежасьці й арыгінальнасьці.

Творчасьць Міколы Куліковіча ахоплівае ўсе жанры музычнага мастацтва. Ягоная творчая спадчына вялікая — сотні апрацаваных народных мэлёдыяў, масавыя юнацкія песьні, камэрныя рамансы, дзьве сымфоніі, сымфанічная сюіта, канцэрт для фартэпіяна з аркестрай, музыка да тэатральных п'есаў, тры опэры — „Кацярына", „Лясное возера" й „Усяслаў Чарадзей". Шматкаляровую палітру эмоцыяў перадае ў гуках кампазытар — пяшчотную лірыку дзявоцкага каханьня, тонкае адчуваньне прыроды, бадзёры крок юнакоў-змагароў за вольную Бацькаўшчыну, патрыятычны ўздым, эпічную шырыню й драматычную ўсхваляванасьць. Цікавая, сакавітая й насычаная аркестроўка Куліковіча.

Сам таленавіты дырыгент, шмат гадоў кіруючы аркестрам у Менскім опэрным тэатры, ён добра ведаў выразныя й тэхнічныя магчымасьці асобных інструмэнтаў і ўдала выкарыстоўваў іх у сваёй творчасьці. Гэткія ягоныя сымфанічныя творы й опэрныя увэртуры, асабліва увэртура да опэры „Лясное возера" — яскравы музычны абраз, увесь прасякнуты рамантычным успрыняцьцем прыроды. Наагул роля аркестры ў опэрах Куліковіча ані не падпарадкаваная — суправаджальная, у аркестры кампазытар як-бы расшыфроўвае нутраную існасьць падзеяў, што адбываюцца на сцэне, разгортваючы музычна-драматургічны паток. Сцэнічныя постаці й характары ягоных опэраў часам у сваёй праўдзівасьці й трагічнасьці сягаюць да высокага драматургічнага ўзроўню, набліжаючы опэры да музычнае драмы. Опэры Міколы Куліковіча належаць да новага этапу ў беларускім музычным мастацтве. Прасякнутыя духам беларускага народу й беларускай прыроды, яны становяць творы цалкам сучасныя й з боку тэхнічнага майстроўства, якія заслужана могуць заняць месца ў шэрагу эўрапейскіх узораў опэрнага мастацтва.

Вельмі значную ролю адыграў Мікола Куліковіч, як грамадзкі дзеяч і арганізатар беларускага музычнага жыцьця на чужыне. Ён быў арганізатарам і душою першага беларускага вандроўнага тэатру-балету-хору на эміграцыі, які працаваў адразу пасьля вайны сярод беларускае ды іншае эміграцыі на абшары Нямеччыны ў гадох 1944-1949 пад назовам „Жыве Беларусь", а пасьля — „Беларускі Тэатр Эстрады". Тэатр гэты даў за пяць гадоў свайго йснаваньня звыш сотні пастановак. Душою нацыянальнага музычнага жыцьця паза бацькаўшчынай застаўся Куліковіч і надалей. Аніводнае нацыянальнае сьвята не абыходзілася безь ягонае музыкі, безь ягонага актыўнага ўдзелу як мастацкага кіраўніка.

Нельга ня ўспомніць і вялікай пэдагагічнай працы Міколы Куліковіча, якую ён вёў да апошніх дзён свайго жыцьця. Добры піяністы, ён разам з навучаньнем тэхнічнага майстроўства валоданьня інструмэнтам заўсёды прышчапляў сваім вучням любасьць і зацікаўленьне да своеасаблівай, багатай і разнастайнай беларускай народнай і прафэсыйнай музычнай культуры.

Мікола Куліковіч — вялікае імя ў гісторыі беларускай музыкі. Навуковец, кампазытар, грамадзкі дзеяч і пэдагог, ён заваяваў яго талентам і няўтомнай працай. Музычна Куліковіч будзе заўсёды гучэць у беларускім народзе.

**Алесь Карповіч**
**Дацэнт-музыкалёг**

# СЬВЯТОЙ ✝ ПАМЯЦІ
## АЙЦЕЦ ЯНКА ТАРАСЭВІЧ

У прыгарадзе Чыкага Лайл памёр 11 чырвеня сёлета на 86-м годзе жыцьця сьвятар-манах а. Янка Тарасэвіч, беларускі рэлігійна-грамадзкі дзеяч. Паходзіў нябожчык зь вёскі Клешнякі на Горадзеншчыне. Зь Беларусі ў Амэрыку выехаў у 1911 годзе. Сярэднюю й вышэйшую асьвету здабыў у Амэрыцы й Швайцарыі, дзе на ўнівэрсытэце ў Фрайбургу ў першай палавіне 1920-х гадоў зрабіў дактарат з тэалёгіі. На ліпень сёлета прыпадалі 55-я ўгодкі сьвятарства а. Я. Тарасэвіча.

Сьв. пам. Янка Тарасэвіч працягам шмат гадоў быў шчыры патрыёт і актыўны грамадзкі дзеяч. У 1930-х гадох наведаў быў Заходнюю Беларусь, але, наткнуўшыся там на польскі шавінізм і адміністрацыйны перасьлед, вярнуўся назад у Амэрыку. З 1936 году як манах Бэнэдыктынскага ордэну жыў у кляштары сьв. Пракопа ў Лайл пад Чыкага, быў вялікім прыхільнікам хрысьціянскага адзінства цэркваў.

Паваенную Беларусь наведаў упяршыню ў другой палавіне 1960-х гадоў, вярнуўшыся адтуль, пасьля дзевяцёх месяцаў, з памылковым перакананьнем, што там памысна разьвязаныя праблемы нацыянальнага, рэлігійнага й эканамічнага жыцьця Беларусаў.

Пахаваны нябожчык 15.VI.1978 г. на могільніку кляштару сьв. Пракопа ў Лайл. У ўрачыстасьці пахаваньня ўзялі ўдзел тры япіскапы, у тым ліку Ўладыка Ч. Сіповіч, шмат сьвятароў і вернікаў. Вечная яму памяць.

Пляменьніку нябожчыка а. Уладзімеру Тарасэвічу выказваем глыбокае спачуваньне.

# ХРАМАВОЕ СЬВЯТА Ў ЧЫКАГА

Беларуская Праваслаўная Парахвія Сьв. Юр'я ў Чыкага адзначала Прастольнае Храмавое Сьвята Сьв. Юр'я Пераможца ў нядзелю 7 траўня сёлета. На сьвяткаваньне былі запрошаныя праваслаўныя сьвятары, якія прыбылі на гэты дзень і прыймалі ўдзел у Сьв. Літургіі. Літургія была адпраўленая настаяцелем Парахвіі а. архімандрытам Язэпам Строкам у суслужэньні прыбылых сьвятароў: ад грэцкай праваслаўнай катэдры пратаярэя а. Бырона Папаніколасу, былага часовага настаяцеля Парахвіі а. пратаярэя Льва Астроўскага з Кліўленду й ад суседняй парахвіі Украінскай Праваслаўнай Царквы Сьв. Ўладзімера пратадыякана а. Славы Ільчука. Падчас Літургіі вельмі прыгожа сьпяваў царкоўны хор пад дырыгенцтвам рэгента Парахвіі Вовы Барушкевіча. Вельмі глыбокую пропаведзь сказаў а. Леў Астроўскі на тэму „Вера й Патрыятызм".

Пасьля Божае Службы прысутныя былі запрошаныя нашым Сястрыцтвам на абед у царкоўную залю, якая была перапоўненая гасьцямі й парахвіянамі. Архімандрыд Язэп прачытаў малітву й пабагаславіў шчодра накрытыя сталы. Абедам кіраваў палкоўнік Даніла Швэфэль, які ў ангельскай мове прывітаў духавенства й усіх прысутных ды заклікаў усіх да супольнай працы на праваслаўнай царкоўнай ніве. Старшая сястра Марыя Каленік прыгожа ў ангельскай мове падзякавала духавенству й усім прысутным.

Пасьля афіцыйнага сьвяткаваньня, калі ўсе сьвятары пакінулі залю, бяседа працягвалася далей. Маладзейшыя пусьціліся ў скокі пад музыку нашага выдатнага музыкі Беларуса Язэпа Маля. Сп-ні Ніна й Марыя Кулагіны й Таня Новік праспявалі некалькі беларускіх песьняў. Наагул-жа вельмі прыемна прайшоў гэты сьвяточны дзень.

**П. Нягода**
**Сакратар Царкоўнай Управы**

# 100 БЕЛАРУСКІХ РАДЫЯПЕРАДАЧАЎ У СЫДНЭІ

У аўторак 23 траўня сёлета ў Сыднэі выйшла на хвалі этэру 100-ая радыёвая праграма ў беларускай мове. Хіба ня выпадкова тэмаю гэтай юбілейнай праграмы быў клясык нашай літаратуры Максім Багдановіч. Відаць, хоць часткова збыліся спадзяваньні вялікага паэты, выказаныя ім амаль 70 гадоў таму: „Хоць зернейкі засохлымі бый чакаю наступнага аўторку".
лі, Усё-ж такі жыцьцёвая іх сіла..."

100 праграмаў раўняецца 50-ці гадзінам тэксту ў добрай беларускай мове, пераплятанага песьнямі й музыкай. Мо гэта й нетакое вялікае дасягненьне, але калі ўзяць увагу на тое, што гэта зрабіла жменька людзей, дык бязумоўна здабытак памнажаецца.

Вось тэматыка нашых радыёвых праграмаў: гісторыя Беларусі, літаратура, выдатныя людзі, народныя звычаі й абрады, нашыя гарады, рэкі, вазёры, лясы, пушчы, клімат. Былі адмысловыя праграмы для моладзі, для маці, аб нацыянальных і рэлігійных сьвятах, перадаваліся навіны й сямейная хроніка. Трэба падчыркнуць высокі ўзровень тэкстаў і падзякаваць Беларускаму Радыёваму Камітэту за тое, што перадачы не зьяжджалі на вузка шавіністычную дарогу. Праўда, называліся рэчы сваімі імёнамі. Калі нашая краіна была акупаваная й эксплятаваная Расейцамі, Палякамі ці Немцамі, дык пра гэта так і казалася. Важна тое, што не разьдзьмухваюцца сваркі й ня сеецца нянавісьць у дачыненьні да дадзенага народу, а толькі інфармуецца пра вытокі зла.

Калі ў мінулым годзе Расейцы ў сваёй перадачы зайгралі беларускую народную песьню „А мой бацька добры быў", дык нашыя людзі іх не дакаралі за гэта, а ветліва падзякавалі за папулярызацыю беларускай песьні. Трэба сказаць, што праца ў радыі не аплачваецца, а толькі пакрываюцца фактычныя выдаткі. Але ці-ж маюць асаблівую цану грошы, калі здараюцца гэткія прыемныя выпадкі, як, прыкладам, наступны: на сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня да нашага дыктара падыйшоў суродзіч, доўга дзякаваў яму, паціскаючы руку й кажучы: „Я сьляпы й адзінокі, для мяне нашыя праграмы сталіся сьвятам, я лаўлю кажнае слова, кажны гук, ад радасьці часта плачу

Слава Вам, сябры Беларускага Радыёвага Камітэту, Вас слухаюць і цэняць. Дай Бог, каб на Вашую 500-ую перадачу я напісаў таксама ў „Беларуса".

Кончылася праграма. Сыгналам нашае перадачы — мэлёдыя „Лявоніхі". Жвавая музыка прыціхае, а дыктар інфармуе: „Вы слухалі беларускую перадачу праз станцыю 2ЭА — Сыднэй, голас этнічнае Аўстраліі. Пры мікрафоне Аўгеня Каранеўская і Міхась Лужынскі. Каардынатар праграмы Аркадзь Качан".

**Хв.**

# БЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА Ў МЭЙНЕ

6-га траўня сёлета ў Мэйн Унівэрсіты ў горадзе Эгоста, штат Мэйн, адбыўся фэстываль, ладжаны студэнтамі гэтага-ж унівэрсытэту, якія вучацца славістыкі й знаёмяцца із славянскімі народамі Эўропы.

Гэтым разам і Беларусы штату першы раз у гэтым фэстывалі прыймалі ўдзел. Маладыя танцоркі Соня й Вера Мельяновічы танцавалі й сьпявалі „Лявоніху", за што прысутныя ўзнагародзілі іх гучнымі воплескамі. Каля зарганізаванай беларускай выстаўкі прайшло прыблізна каля 400 асобаў, якія із зацікаўленьнем аглядалі беларускія экспанаты. Публіка, пераважна студэнты, настаўнікі й прафэсары аглядалі карту Беларусі, беларускія тканіны, вышыўкі ды іншыя мастацкія рэчы. З увагі на тое, што студэнты ўнівэрсытэтаў — гэта авангард амэрыканскага грамадзтва, для нас Беларусаў карысна інфармаваць іх аб палажэньні Беларусі ў Эўропе.

Шчырае дзякуй д-ру В. Кіпелю за прысланую інфармацыйную літаратуру пра Беларусь, сп-ру Барысу Русаку за дапамогу ў ладжаньні выстаўкі, а таксама сп-ням Ж. Гурын, Ю. Корчыку, Н. Кулеш, Н. Лапушэнка, М. Супрунюк і ейнай маме Саўчыц за прыгожыя экспанаты, а Надзі Гурын за вывучэньне сваіх дачушак нашага нацыянальнага танцу „Лявоніхі". Усім шчырае беларускае дзякуй!

**Паўла Кулеш**

# НОВАЯ РАСЕЙСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ "ЗА РАСЕЮ БЕЗ КАЛЁНІЯЎ"

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

вага змаганьня, крывадушна выкарыстоўваны ў сваіх інтарэсах камунізмам.

І дзеля гэтага мы, будучы выказьнікамі тэй часьці свабоднае, не паняволенае камуністымі, расейскае грамадзкае сьведамасьці, якая прыйшла да разуменьня адзінства гэтага шляху вызваленьня Бацькаўшчыны, абвяшчаем пра стварэньне арганізацыі „За Расею без Калёніяў". Супрацоўніцтва зь іншымі нацыянальнымі арганізацыямі мы разглядаем як першую, неабходную перадумову ў пабудове будучай нацыянальнай свабоднай Расеі, якая ўзьнікне побач зь іншымі сувэрэннымі нацыянальнымі дзяржавамі із савецкай імпэрыі, што аджыла свой век".

Прадстаўнікі паасобных нацыянальнасьцяў віталі паўстаньне дэмакратычнай расейскай палітычнай арганізацыі на эміграцыі „За Расею без Калёніяў" і шчыра жадалі як найлепшых посьпехаў у ейнай дзейнасьці. Ад Беларусаў із словамі прывітаньня выступіў галоўны рэдактар газэты „Беларус" Д-р Ст. Станкевіч. Ён асьветчыў, што беларуская палітычная эміграцыя, якая стаіць на пазыцыях аднаўленьня беларускай незалежнай дзяржавы, абвешчанай у 1918 годзе, ды кіруецца прынцыпамі запраўднага дэмакратызму, будзе імкнуцца да супрацоўніцтва з новапаўсталай расейскай палітычнай арганізацыяй „За Расею без Калёніяў" у імя супольнае карысьці й лепшай будучыні.

**Прысутны**

# КНІГА Ў ДАПАМОГУ Й АПРАЎДАНЬНЕ МОЎНАЙ РУСЫФІКАЦЫІ Ў СССР

I.

Перад намі выдадзеная летась сумесным выданьнем выдавецкага задзіночаньня „Вища Школа" ў Кіеве й выдавецтва „Энцыкляпэдыя" ў Ляйпцыгу кніга калектыўнага аўтарства на расейскай мове „Великий Октябрь и русский язык", што ў перакладзе на беларускую мову будзе гучэць „Вялікі Кастрычнік і расейская мова". Паасобныя пытаньні, закранутыя ў гэтай кнізе, пасярэдня, а то й беспасярэдня датычаць і да беларускай мовы. У сувязі з гэтым неабходна прысьвяціць гэтай сваяасаблівай кнізе шырэйшую ўвагу.

Першае, што адразу кідаецца ў вочы, кніга гэтая, якая зьмяшчае ў сабе вялікую колькасьць артыкулаў украінскіх, нямецкіх і расейскіх аўтараў, пад нявіннай вонкавай формай быццам навуковага дасьледваньня, носіць наскрозь палітычна-прапагандавы й груба тэндэнцыйны характар. Ужо навет прадмова да кнігі пачынаецца словамі: **„Манаграфія прысьвячаецца 60-ым угодкам Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі"**. Агульная тэндэнцыя ўсяе кнігі — апраўданьне русыфікацыі нацыянальных моваў нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу, галоўна ўкраінскае мовы, і моваў краёў гэтак званых народных дэмакрацыяў, галоўна нямецкай, ды намаганьне пераканаць чытача, што гэта ня русыфікацыя, а якраз неабмежаныя магчымасьці свабоднага разьвіцьця нацыянальных моваў. Як ведама, гэта выпрабаваны бальшавіцкі мэтад, што, пры нэўтральным становішчы самых Расейцаў, роля адвакатаў у вапраўданьне русыфікацыі ўскладзена на ўкраінскіх і нямецкіх моваведаў. Пры ўсёй пэрфіднасьці гэтага мэтаду, мы Беларусы ўсё-ж можам цешыцца, што ганебная роля абаронькаў русыфікацыі ў дадзеным выпадку нас абмінула.

Урэшце пра тэндэнцыйнасьць і публіцыстычны характар кнігі сьветчыць і тое, што ў ёй даволі шмат палемічнага элемэнту. Гэтак ужо ў першым артыкуле „Функцыянаваньне моваў народаў СССР у вабставінах росквіту сацыялістычных нацыяў", аўтарам якога ўкраінскі мовавед зь Кіева І. К. Беладзед, між іншым, чытаем:

**„Росквіт моваў народаў Савецкага Саюзу поўнасьцяй зьняпраўджвае выдумкі капіталістычнай прапаганды, паклёпы буржуазных нацыяналістаў, сыяністаў, рознага роду рэвізіяністаў аб працэсе 'русыфікацыі', які быццам-бы мае месца ў нашай краіне, прымусовай асыміляцыі, нераўнапраўі нацыянальных культураў і моваў..."**

Супрацьстаўляючы моўную палітыку Савецкага Саюзу, як ідэяльную й адзіна справядлівую, капіталістычным дзяржавам і буржуазным грамадзтвам, аўтары кнігі намагаюцца давесьці, што ў Савецкім Саюзе ўсе мовы раўнапраўныя й роўныя ды што створаныя ўсе перадумовы дзеля свабоднага разьвіцьця моваў усіх нацыянальнасьцяў. Гэтак Ф. П. Філін з Масквы ў артыкуле „Расейская мова як сродак міжнацыянальных зносінаў", між іншым, цьвердзіць:

**„На прынцыпова іншых асновах будуюцца міжмоўныя ўзаемадачыненьні ў сацыялістычным грамадзтве. У выніку ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі ў СССР усе мовы раўнапраўныя. Братняе суіснаваньне сацыялістычных нацыяў сталася асновай нябачанага росквіту ўсіх нацыянальных моваў нашай краіны, стварэньня багатай і разнастайнай літаратуры (мастацкай, навуковай, публіцыстычнай). Асабліва шматгранна разьвіліся нацыянальныя мовы ў саюзных рэспубліках, аб чым сьветчаць статыстычныя дадзеныя ў важнейшых сфэрах духовай культуры".**

Пасьля гэтага асьветчаньня аўтар пералічае гэныя „статыстычныя дадзеныя". Сярод іх прыводзіць і наступныя:

**„На нацыянальных мовах разьвіваецца мастацкая літаратура й тэатральнае мастацтва. У 1973 годзе ў 14 саюзных рэспубліках (апрача РСФСР) функцыянавала 249 тэатраў, бальшыня якіх працавала на нацыянальных мовах".**

У запраўднасьці-ж гэная „бальшыня" тэатраў, што быццам працавала на нацыянальных мовах, у беларускай саюзнай рэспубліцы выражаецца ня вельмі эфэктоўнымі лікамі: з усіх 14-ёх прафэсыйных тэатраў БССР на беларускай мове працуюць усяго толькі тры: Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ў Менску, Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску ды Тэатр Юнага Глядача ў Менску. Усе-ж іншыя тэатры працуюць на расейскай мове. Падобны адваротны сэнс маюць і ўсе іншыя „довады", прыводжаныя ў бальшыні артыкулаў кнігі пра тое, што быццам усе мовы народаў Савецкага Саюзу, у тым ліку й мова беларуская, маюць юрыдычныя й фактычныя магчымасьці свабоднага разьвіцьця.

Дзеля зьняпраўджаньня гэных „довадаў" можна прывесьці вялікую колькасьць фактаў з аднэй тэлькі БССР. Ды факты гэныя, дарэчы, агульна ведамыя. Таму ў якасьці асабліва вымоўных прыкладаў, апрача згаданага прыкладу з галіны тэатральнай палітыкі, прывядзём яшчэ адно колькі. Гэтак з усяе кніжнае прадукцыі Беларусі ня больш чымся 15% кнігаў выходзіць на беларускай мове, а штонайменш 85% — на расейскай мове. Дый гэта яшчэ не адлюстроўвае запраўднага палажэньня. Беларусь, як і ўсе іншыя нацыянальныя рэспублікі, шчодра навадняецца вялізарнай колькасьцяй кнігаў на расейскай мове, выдадзеных у Маскве й Ленінградзе, што ўдзельную вагу кнігаў на беларускай мове зводзіць да зусім мізэрных разьмераў.

Іншы прыклад. Усе вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі працуюць, як правіла, на расейскай мове, а таксама бадайшто ўсе сярэднія агульнаадукацыйныя й спэцыяльныя школы ды дзіцячыя дамы ў гарадох рэспублікі вядуць навучаньне на расейскай мове. Яшчэ колькі год таму было сьцьверджана, што навет у сталічным Менску няма ніводнай сярэдняй школы зь беларускай мовай навучаньня.

Былі створаныя гэткія абставіны, пры якіх роля беларускае мовы зводзілася да мінімуму й выразна дэградавалася, раўнуючы да мовы расейскай. І ані не адпавядае праўдзе цьверджаньне цытаванага ўжо Ф. П. Філіна, што ў Савецкім Саюзе „руская мова роўная сярод роўных". Фактычна-ж яна моцна ўпрывілеяваная й вышэй цэненая. Агульна ведама, што ў Савецкім Саюзе ўсе партыйныя органы, урадавыя ўстановы, савецкія й грамадзкія арганізацыі працуюць на расейскай мове й на гэтай-жа мове вядуць сваё справаводзтва. Каб атрымаць працу ў згаданых установах, абавязкава трэба добра ведаць расейскую мову, затое бязь беларускай мовы, за выняткам галінаў працы, беспасярэдня з гэтай мовай зьвязаных, лёгка можна абыйсьціся. Таму мусіў стварыцца пагляд, што беларуская мова ў беларускай рэспубліцы якраз ня роўная сярод роўных, а непаўнацэнная й, як гэткая, выціскаецца навет з прыватнага ўжываньня ды замяняецца расейскай мовай, як другой, а навет як першай і адзінай роднай мовай.

(Працяг на 6-ай бач.)

# ЗЛАДЗЕІ МАЛЫЯ Й ВЯЛІКІЯ

У сваім даўгім артыкуле „Багародзіца з-пад крыса" („ЛІМ", 19. 5.78) А. Астрэйка насамперш апісвае амаль некантраляванае зладзейства, што сяньня пашыранае ў акупаванай Беларусі: кражу іконаў і іншых каштоўных прадметаў рэлігійнага ўжытку із сьвятыняў. Ён апісвае выпадкі такіх зладзействаў, называе прозьвішчы й згадвае суд, дзе злачынцаў пакаралі.

„Толькі за апошнія два гады ў Беларусі было ўкрадзена 120 ікон, многія зь якіх маюць гістарычную каштоўнасьць і стаяць на ўліку ў Міністэрстве культуры рэспублікі", — інфармуе нас А. Астрэйка.

„Крадуць іконы? Крадуць культавыя рэчы? Не! Крадуць творы мастацтва, робяць замах на безыменныя палотны беларускіх Андрэяў Рублёвых, на рэчы, створаныя на працягу стагодзьдзяў талентам і фантазіяй беларускіх народных умельцаў".

„Дзялкоў ад Хрыста часта падштурхоўвалі на гэты „промысел" сквапныя рукі замежных місіянэраў, якія ўсялякімі спосабамі спрабуюць вывезьці творы нашага мастацтва за мяжу. Іконы, кнігі, разнастайныя рэчы крадуць, перапрадаюць, сплаўляюць за мяжу".

А. Астрэйка, на вялікі жаль, гаворыць у васноўным пра тое, як зладзеі абрабоўваюць асірацелыя сьвятыні **цяпер**. І гаворыць адно пра малых зладзеяў, памінаючы тых галоўных, што ўжо раней абрабавалі беларускія сьвятыні з найбольшых каштоўнасьцяў і пэўне-ж у свой час „сплавілі" куды трэба. Дык пасьля гэтага рытарычным і банальным выглядае наступнае пытаньне:

„Дзе найкаштоўнейшы крыж з сабору Афрасіньні Полацкай, зроблены славутым умельцам Л. Богшам? Дзе сотні старажытных ікон з музэяў Віцебску й Менску? Дзе найкаштоўнейшыя служэбнікі й трэбнікі, бібліі й эвангельлі з цэркваў Магілеўшчыны й Гомельшчыны? Дзе славутыя калекцыі карцін і рукапісаў, што захоўваліся ў Нясьвіскім замку?"

Астрэйка, згодна партыйнай інструкцыі, дае стандартны адказ: „У часе вялікай айчыннай вайны... фашысты вывозілі ўсё, што маглі. З музэяў, прыватных калекцый, са школ і культавых будынкаў. Дзясяткі цэркваў і касьцёлаў былі абрабаваны імі".

Калі ўжо згадваюцца адны, нямецкія фашыстыя, дык трэба было-б згадаць і галоўных злачынцаў, сваіх чырвоных фашыстых, што кралі, расьцягвалі дый самыя каштоўныя сьвятыні разбуралі доўга да таго, пакуль тым іншым, бэрлінскім фашыстым яшчэ й ня сьнілася свой „дранг нах остэн" рабіць. Калі ўжо згадваецца найбольш каштоўны, украдзены скарб беларускага народу, — крыж сьв. Афрасіньні Полацкай, дык пра яго Астрэйку варта было-б даведацца ў вадпаведных атэістычных і ліквідацыйных (у галіне „культаў") органах улады, у тых галоўных мярзотнікаў і зладзеяў, што рабавалі й рабуюць найбольшыя каштоўнасьці беларускага народу.

Малыя зладзеі, аб'ект Астрэйкавае ўвагі, адно ўзялі прыклад з гэных вялікіх, галоўных злачынцаў. І гэта нармальна. Як у сьв. Бібліі сказана: „з бруднае крыніцы толькі бруднае пацячэ".

Дык ужо калі йдзе пра суды, беларускі паняволены народ сяньня ня ў стане цягнуць на вялікі суд тых галоўных акупацыйных злачынцаў, што мусілі-б адказваць за абкраданьне, руйнаваньне беларускіх сьвятыняў і твораў мастацтва.

Далей аўтар артыкулу інфармуе чытачоў „ЛІМ" пра спробы „зачыніць вароты пасьля таго, як каня ўкралі", значыцца пра цяперашнія намаганьні Беларусаў, перадусім з сэктару-музэю Інстытуту Мастацтва, Этнаграфіі, Фальклёру Акадэміі Навук БССР, захаваць тое, што яшчэ не пакрадзенае.

„Сэктар-музэй рыхтуе выстаўку-экспазіцыю „Мастацтва, этнаграфія і архэалёгія". Завозяцца экспанаты й абсталяваньне, рыхтуецца памешканьне. Калекцыя выстаўкі — каля чатырох тысяч твораў, раньнія зь якіх датуюцца 14 стагодзьдзем. Гэта — іконы й старадрук, прадметы вышыўкі й чаканкі, шыцьця й разьбы па дрэве, прылады працы. Каля тысячы зь іх перададзена з былога музэю беларускае культуры зь Вільні. Рэшту сабралі энтузіясты й супрацоўнікі Інстытуту этнаграфіі й фальклёру".

Астрэйка згадвае „былы музэй беларускае культуры зь Вільні". Гэта, ясна, маецца на ўвазе некалі багаты музэй Івана Луцкевіча, што, як ведама, пасьля апошняе вайны, не бязь ведама „старшага брата", абрабавалі й закрылі „братнія" Лятувісы. На добры лад Лятувісы мусілі-б зьвярнуць беларускаму народу ўсе скарбы былога музэю Луцкевіча, уключна із самым беларускім горадам Вільняй. Але ці-ж Астрэйка можа пра гэта сказаць, каб і хацеў?

Пасьля Астрэйка інфармуе нас, што плянуецца, і заклікае розных „калекцыянераў" зьвяртаць пакрадзеныя рэчы ў рукі інстытуцыяў, каб іх захаваць і выкарыстоўваць для выставак.

Позна й мала. Пакуль тыя галоўныя „калекцыянеры" зладзеі сядзяць пры ўладзе, беларускі народ, бязумоўна, не атрымае назад сваіх рэлігійных і мастацкіх скарбаў. Ёсьць адна й толькі адна разьвязка: народу трэба вярнуць тыя сьвятыні, што варвары яшчэ ня зьнішчылі, даць вольнасьць рэлігіі й вярнуць туды пакрадзеныя скарбы. І народ імі заапякуецца, калі ня будзе яму перашкаджаць варварская рука акупацыйных злачынцаў.

**К. Акула**

# ДЗЕНЬ ВЭТЭРАНАЎ У НЬЮ БРАНСЬВІКУ



**Беларуская калёна машыруе вуліцамі Нью Брансьвіку**

Як заўсёды, суседнія асяродкі Нью Брансьвіку й Гайлэнд Парку адзначалі й сёлета супольна амэрыканскі Дзень Памінкаў парадам вэтэранскіх, скаўцкіх і грамадзкіх арганізацыяў з удзелам школьных ды іншых аркестраў. Сёлета парад пачынаўся ў цэнтры гораду Нью Бранськвік, ішоў вуліцамі гораду, мостам праз раку Рарытан, побач Беларускага Царкоўна-Грамадзкага Цэнтру й канчаўся ў цэнтры гораду Гайлэнд Парк, прайшоўшы ля трыбуны з прадстаўнікамі грамадзкіх, паветавых і вэтэранскіх уладаў.

Стройную беларускую калёну вёў старшыня Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі капітан Сяргей Гутырчык. У першым радзе йшлі сябры Згуртаваньня з вэтэранскім штандарам ды амэрыканскім і беларускім сьцягамі. За імі йшло некалькі радоў вэтэранаў у формах, тады сябры Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Нью Джэрзі ў нацыянальных вопратках із сьцягамі, тады сяброўкі Жаноцкай Сэкцыі БАЗА ў народным адзеньні. Наймалодшай удзельніцай параду была Каця Дубяга. Сп. Віктар Лосік быў адным з маршалаў параду.

Пасьля параду й пачастунку ў Вэтэранскім Цэнтры ў Гайлэнд Парку беларускія ўдзельнікі параду сабраліся ў царкоўнай залі. Да іх прылучыліся госьці з Ангельшчыны — Спадарства Міхалюкі. Успаміны з ваенных і пасьляваенных гадоў, беларуская грамадзкая дзейнасьць у Ангельшчыне й ЗША ды пытаньне лепшай каардынацыі гэтай працы былі галоўнай тэмай бяседы.

**Прысутны**

# ЭЎРАПЕЙСКІ КАНГРЭС У ФРАЙБУРГУ

У горадзе Фрайбургу ў Заходняй Нямеччыне, на мяжы трох эўрапейскіх дзяржаваў — Нямеччыны, Францыі й Швайцарыі, ад 28 красавіка да 1 травеня сёлета, адбываўся Кангрэс Панэўрапейскай Вуніі. Гэтая Вунія, ідэя заснаваньня якой узьнікла хутка пасьля Першае сусьветнае вайны, адыгрывае важную ролю ў падрыхтоўцы да першых выбараў у 1979 годзе ў Эўрапейскі Парлямант.

Кангрэс у Фрайбургу прайшоў пад пачэсным старшынствам прэзыдэнт-міністра Бадэн-Вюртэмбэргіі д-ра Г. Фільбінгера. Тэмаю Кангрэсу было: „Незалежнасьць Эўропы — Вольнасьць, Адзінства, Справядлівасьць". На Кангрэс зьехаліся адказныя эўрапейскія палітыкі, міністры, навукоўцы, журналістыя, дэпутаты эўрапейскага й краёвых парлямантаў зь Нямеччыны, Францыі, Ангельшчыны, Гішпаніі, Аўстрыі, Люксэмбургу, Бэльгіі, Партугаліі, Італіі й іншых краёў, вайсковыя спэцыялістыя НАТО. Беларусь і іншыя паняволеныя ў СССР народы рэпрэзэнтавалі на Кангрэсе спадарства Д. і Н. Касмовічы.

Беларускія прадстаўнікі прыймалі ўдзел у працах камісіяў Кангрэсу. Беларускі прадстаўнік падчыркнуў важнасьць патэнцыяльнай сілы паняволеных Масквой народаў, у тым ліку й беларускага народу. Сп. Д. Касмовіч прывітаў прысутных прадстаўнікоў Кангрэсу ад імя Беларусаў і ад імя ўсіх паняволеных народаў СССР. Ён зазначыў, што ягоная прысутнасьць на Эўрапейскім Кангрэсе сымбалізуе адзінства й салідарнасьць беларускага й іншых паняволеных народаў СССР з народамі вольнай Эўропы. Затым сп. Д. Касмовіч паінфармаваў прысутных аб змаганьні беларускага народу за сваю незалежнасьць, аб пагвалчаньні Масквой правоў народаў і чалавека й зазначыў, што прадстаўнікі БССР у Задзіночаных Нацыях змушаныя выконваць волю Масквы, а ня волю свайго народу. На заканчэньне ён выказаў упэўненасьць, што паняволеныя Масквой народы, у тым ліку й народ беларускі, перамогуць камуністычную дыктатуру, здабудуць вольнасьць і незалежнасьць і дадуць багаты ўклад у эўрапейскую сям'ю народаў дзеля зрэалізаваньня ідэялаў вольнасьці, адзінства й справядлівасьці ў Эўропе.

Гэткім парадкам беларускія прадстаўнікі зрабілі значны ўклад у Эўрапейскі Кангрэс, пашырылі й навязалі новыя сувязі з прадстаўнікамі вольнае Эўропы.

**С. Каліновіч**

# ПОСЬПЕХІ БЕЛАРУСКІХ ЖАНЧЫНАЎ

Кажны асабісты посьпех Беларуса трэба вітаць, бо чым больш пасьпяховым будзе асабістае жыцьцё, тым большую карысьць будзе мець уся нашая грамада. Такая, відаць, ужо ў нас натура: нашая рыса, магчыма й не на карысьць нам, сьціплась.

Гэткім посьпехам я ўважаю выдатнае заканчэньне вышэйшае асьветы — Мэрсы Каледж у Ньюёркаўскім штаце, — з аднačасным прыняцьцём у два ганаровыя навуковыя таварыствы й атрыманьнем дыплёму з тытулам „Бэйчэлерс оф Саенс" сп-ні **Мані Нэстар (Лук'янчык)**. Маня даўно ведамая нашаму грамадзтву: яна кіравала танцавальным гуртком у Кліўленьдзе, актыўна ўдзельнічала ў студэнцкім жыцьці ды колькі год працавала з моладзяй у лягерах Бэлейр-Менску. Маня Нэстар сыстэматычна шырыла веды пра Беларусь падчас сваіх студыяў у каледжы і ў працы з амэрыканскай моладзяй. І вось 25 травеня сёлета Маня Нэстар закончыла студыі, мае намер працаваць настаўніцай ды здабываць „Мастэр-дэгры".

Далей мне хочацца шчыра прывітаць таксама шырокаведамую й адданую грамадзкую працаўніцу, каляжанку паводля прафэсыі, сп-ню **Галіну Русак** з прамоцыяй і навуковым тытулам „Асошыед прафэсар" Ратгэрскага Штатавага Ўнівэрсытэту ў штаце Нью Джэрзі.

Трэйці посьпех беларускае жанчыны, а зь ім і трэйцяе вітаньне, шыракаведамай амэрыканскай акадэмічнай грамадзе, асабліва славянаведам, за ейныя шматлікія рэфэраты й артыкулы пра Купалу, Коласа, Быкава, Арсеньневу ды беларускую літаратуру наагул, сп-ні д-р **Вользе Арэхве** з прамоцыяй і навуковым тытулам „Асошыед прафэсар" штатавага ўнівэрсытэту Паўдзённага Іліной. Уважаю, што грамадзтву прыемна пра ўсё гэта даведацца.

**Зора Кіпель**

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**„Беларускі Сьвет",** чародны 32-гі нумар часапісу, выдаванага ў Дэтройце Міколам Прускім, выйшаў у сьвет. У нумары артыкул пра Францішка Скарыну, працяг аповесьцяў Якуба Коласа й Васіля Быкава, колькі вершаў, народная песьня й гумар.

**Д-р Вольга Арэхва** чытала рэфэрат пра Янку Купалу азагалоўлены „Нацыяналізм і пытаньне свабоды" ў горадзе Гюстон, Тэксас, на гадавой канфэрэнцыі Паўдзённа-Заходняе й Скалістых Гораў Асацыяцыі Славістычных Студыяў, якая праходзіла ад 12 да 15 красавіка сёлета.

Аб выступленьні **Васіля Мельяновіча** на канфэрэнцыі Славянскіх Групаў штату Мэрылэнд шырака інфармуе газэта „Амэрыкэн Этнік" (№ 1-5, 1978), якая выдаецца ў горадзе Балтымор, штату Мэрылэнд.

У інтэрвю, дадзеным газэце „Дэйлі Ньюз" за 18 травеня сёлета, **д-р Вітаўт Кіпель** расказвае пра беларускую, вугорскую й украінскую нацыянальнасьць, як магчымыя аб'екты для турыстычнае індустрыі.

Чародны нумар англамоўнага часапісу **„АБН-Корэспондэнц"** (№ 2, 1978) зьмяшчае шмат цікавага й важнага матарыялу пра Беларусь. Адчыняецца часапіс артыкулам „В. Мароз абараняе Беларускі Народ", у якім ведамы ўкраінскі дысыдэнт войстра крытыкуе беларускую савецкую паэтку Еўдакію Лось, супрацьставячы ёй Янку Купалу. У артыкуле аналізуецца стан і праблема русыфікацыі Беларусі. Далей у часапісе надрукаваныя ў ангельскім перакладзе тэксты трох Устаўных Граматаў БНР ды перадрукаваная рэзалюцыя, прынятая на сьвяткаваньні ўгодкаў незалежнасьці Беларусі ў Нью Ёрку 27 сакавіка 1977 году. Нажаль, тэкст 3-яй Устаўной Граматы, хіба-ж ня выпадкова, схвальшаваны: у ім апушчаны пералік беларускіх этнаграфічных тэрыторыяў, што павінны былі ўвайсьці ў склад Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Др. Вітаўт Кіпель,** як прадстаўнік губэрнатара штату Нью Джэрзі на адзначэньні Дня Незалежнасьці Арменіі ў Нью Ёрку 3-га чырвеня, вітаючы Армянаў зь вялікім сьвятам, адзначыў супольнасьць сяньняшняга палітычнага стану Арменіі й Беларусі. Сьвяткаваньне было арганізаванае армянскімі арганізацыямі трох штатаў: Нью Ёрк, Нью Джэрзі й Канэктыкет.

**„Этнічны Даведнік Штату Нью Джэрзі", укладзены сп-няй Зорай Кіпель,** выйшаў нядаўна з друку ў выдавецтве Ўайз Паблішэрс. У даведніку пералічана больш за 1700 нацыянальных арганізацыяў, цэркваў, клюбаў, гурткоў і г. д. Пры кажнай арганізацыі падаецца год ейнага заснаваньня ды кароткая гісторыя й арганізацыйныя мэты. Выданьне даведніка выйшла пад апекай ньюджэрзійскае Камісіі Адзначэньня Двухсотгодзьдзя Амэрыкі. Цана кнігі — 16 дал. 50 ц. Зварачацца на адрыс:

Books About New Jersey,
366 Mountain Rd.,
Union Sity, N. J. 07087

**Пра даклад сп. Уладзімера Бортніка** на міжнароднай канфэрэнцыі ў Лёзане ў Швайцарыі падаў у сёлетнім лютаўскім нумары брытанскі часапіс „Іст-Ўэст Дайджэст" (бб. 132-3).

**Новыя кнігі з савецкае Беларусі** (гісторыя, народная творчасьць, даведнікі, слоўнікі) пералічаюцца ў каталёгу № 55 кнігарні Віктара Камкіна, што каля Вашынгтону. Каталёг можа быць высланы на запатрабаваньне. Адыс і тэлефон кнігарні:

Victor Kamkin, Inc.,
12224 Parklawn Drive,
Rockville, Maryland 20852
Tel.: (301) 881-5973

**„Песьняры",** разам з амэрыканскімі ансамблямі „Біч Бойс", „Сантана" із Джоан Баэз 4-га ліпеня сёлета будуць выступаць у Ленінградзе на плошчы перад Зімовым Палацам з нагоды Дня Незалежнасьці Амэрыкі.

# "РАСТРАТА МАЗГОЎ"

Беларускай камсамольскай газэце „Чырвоная зьмена" ў нумары за 11-га сакавіка 1978 г. заманулася выкарыстаць артыкул „уласнага карэспандэнта" Агенцтва друку „Навіны" ў Лёндане Э. Чапарава пад заг. „Растрата мазгоў".

Ангельскія студэнты, як выяўляецца, растрачваюць мазгі, бо ці то яны самі лянуюцца, ці то іх прафэсары іхныя недавучваюць. І рэдакцыі „Чырвонае зьмены" захацелася пакпіць з ангельскіх студэнтаў-няўмекаў, а заадно — і з „гнілых буржуазных" парадкаў у Ангельшчыне. Вось як пачынаецца артыкул „Растрата мазгоў":

„Газэтны загаловак: 'Студэнты ня ведаюць ангельскай мовы'. Якія студэнты? Аказваецца, ангельскія. 'Прафэсары заклапочаны, — піша газэта 'Дэйлі мэйл', — што некаторыя студэнты настолькі дрэнна ведаюць ангельскую мову, што ня могуць зразумець, чаму іх вучаць'. І гэта не публіцыстычнае перабольшаньне, а вынік абсьледаваньня, праведзенага на прыродазнаўчых факультэтах унівэрсытэту ў Брэдфардзе. Чверць праверанных студэнтаў ня справілася з прапанаванымі ім заданьнямі".

Ня ганячы й не баронячы ангельскае сыстэмы навучаньня — не пра гэта тут ход — а толькі ўзяўшы на ўвагу тое абсьледаваньне студэнтаў прыродаведных факультэтаў Брэдфардзкага ўнівэрсытэту, цікава было-б запрапанаваць рэдакцыі „Чырвонкі", каб яна правяла падобнае абсьледаваньне студэнтаў, скажам, **Беларускага** Палітэхнічнага Інстытуту з мэтай устанаўленьня іхнага веданьня **беларускае** мовы. Можа-б тады — у параўнаньні — і ангельскія студэнты ня гэтак сьмешна выглядалі-б. Ці вы, калегі з рэдакцыі „Чырвонае зьмены", думаеце, што тры чверці студэнтаў Беларускага Палітэхнічнага Інстытуту прайшлі-б з добрымі адзнакамі абсьледаваньне іх у веданьні беларускае мовы? А можа пра шмат каго зь іх можна было-б сказаць тое самае, што сказаў цытаваны ў вашай газэце прафэсар Брэдфардзкага ўнівэрсытэту Трэвар Гэршнаў пра сваіх студэнтаў: „Зробленыя імі граматычныя памылкі былі такімі грубымі, што сьветчылі аб неразуменьні сэнсу сказаў . . ."?

Але да абсьледаваньня гэткага наўдачу ці дойдзе ў Менску, у якім, як адназгодна заяўляюць замежныя наведвальнікі, беларускае мовы й ня чуваць. Зрэшты, і сама „Чырвоная зьмена" сьветчыць аб сваім собскім неразуменьні „сэнсу сказаў" беларускае мовы, калі выраз „чаму іх вучаць" ужывае ў сэньсе расейскага „чему их учать", тымчасам як у дадзеным выпадку пабеларуску можна сказаць толькі „чаго іх вучаць".

Розьніца паміж ангельскімі студэнтамі, што ня ведаюць ангельскае мовы, і беларускімі, што ня ведаюць беларускае мовы, тая, што ў дачыненьні да ангельскіх студэнтаў праводзяцца абсьледаваньні, а вынікі гэтых абсьледаваньняў падаюцца да публічнага ведама (нат чытачы „Чырвонае зьмены" пра гэта даведаліся). Што-ж да беларускіх студэнтаў, дык ніякіх падобных абсьледаваньняў не праводзіцца, няма ніякае статыстыкі пра іхную „растрату мазгоў" у дачыненьні да роднае мовы, і ніхто ня ўздымае голасу, што вялікі працэнт народнае інтэлігенцыі ня ведае мовы свайго народу. Сказаць пра гэта ў вабставінах сучаснае Беларусі можна адно эзопаўскай моваю, як гэта зрабіў, прыкладам, нядаўна адзін паэта, напісаўшы верш — але не пра беларускую моладзь, а пра буслоў ды бусьлянятаў:

Праўда, чуткі нядаўна пайшлі
наконт мовы:
Быццам у школе яны
па-бусьлінаму — ані слова.
Маўчаць. Маўляў, у век НТР*
Павінен формуламі размаўляць
інжынер.
Навет вучоны, кажуць, узьнік,
Базу падвёў — гаспадарчы
разьлік:
Моваю менш — эканомней
чарніла,
Менш сачыненьняў — менш
і памылак.

Аж ня верыцца . . .
Няўжо бусьляняты аб'еліся
блёкату,
Што разумець не жадаюць
бацькоўскага клёкату?
Не дапускаю. Магчыма, і ёсьць
сымптомы,
Ды птушкі тут ні пры чым,
вядома.

Але-ж, птушкі тут ні пры чым . . . Блёкату аб'еўся нехта іншы. І пра гэта трэ было-б пісаць куды больш, як пра тых ангельскіх студэнтаў Брэдфардзкага ўнівэрсытэту. А то выходзіць, што чужое бачым пад лесам, а свайго ня бачым пад носам.

---

* НТР — Навукова-тэхнічная рэвалюцыя.

**А. Загорны**

# МАКСІМУ ТАНКУ

„гэрою сацыялістычнай працы" й г. д., у сувязі з атрыманьнем ленінскай прэміі ў літаратуры за 1978 год, прысьвячаецца:

Эх, Максім, ты Максім,
ахірэў ты зусім,
стаўся дробнай
партыйнаю пстрычкай.

На партыйны Пэгас
ты узьлез у свой час,
б'еш чалом
акупанту-чужынцу!

**К. Акула**

# КНІГА Ў ДАПАМОГУ Й АПРАЎДАНЬНЕ МОЎНАЙ РУСЫФІКАЦЫІ Ў СССР

**(Працяг з 5-ай бачыны)**

Гэткім парадкам цьверджаньні кнігі „Вялікі Кастрычнік і расейская мова", што ў Савецкім Саюзе быццам усе мовы раўнапраўныя й роўныя, што кажнай зь іх загарантаванае свабоднае разьвіцьцё ды што русыфікацыі там няма й заваду — усё гэта належыць да арсэналу няпераборлівай палітычнай прапаганды.

## II

Асобна варта засярэдзіцца на пытаньні дабрадзейнай, як цьвердзіцца ў кнізе „Вялікі Кастрычнік і расейская мова", ролі й функцыі расейскай мовы ў Савецкім Саюзе й гэткім-жа быццам дабрадзейным ейным уплывам на росквіт і разьвіцьцё нерасейскіх моваў. Гэтак ужо ў артыкуле „Функцыянаваньне моваў народаў СССР у вабставінах росквіту сацыялістычных нацыяў" украінскага аўтара Беладзеда, якім адчыняецца кніга, чытаем:

**„Аднэй з характэрнейшых закамернасьцяў разьвіцьця прагрэсу зблізжэньня й яднаньня („единения") сацыялістычных нацыяў і народнасьцяў СССР, далейшага разьвіцьця новай гістарычнай супольнасьці людзей — савецкага народу — зьяўляецца ўмацаваньне ролі й функцыяў расейскае мовы — мовы міжнацыянальнае лучнасьці народаў СССР, мовы міжнароднага дзеяньня, магутнага фактару творчай помачы ў разьвіцьці і старапісьменных, і моладапісьменных моваў народаў СССР".**

Працытаваныя цьверджаньні Беладзеда паўтараюцца ў розных варыянтах колькі разоў у ягоным артыкуле, а таксама ў некаторых артыкулах іншых аўтараў кнігі. Таму неабходна спыніцца глыбей на існасьці гэных цьверджаньняў, перш-наперш на ролі расейскае мовы, як мовы міжнацыянальных лучнасьцяў народаў Савецкага Саюзу. Само сабой зразумела, што ў строга цэнтралізаванай дзяржаве, якой стаўся Савецкі Саюз, выбар нейкае аднае мовы дзеля гэных міжнацыянальных лучнасьцяў зьява няўхільная. Гэта тымбольш, што ўсяго тры народы Савецкага Саюзу — расейскі, украінскі й беларускі маюць зблізжаныя сваім належаньнем да славянскае сям'і мовы, а мовы ўсіх іншых народаў СССР зусім іншага й цалкам адрознага паходжаньня. Бяручы аб'ектыўна, на мову міжнацыянальных лучнасьцяў і падходзіць якраз расейская мова, як мова найвялікшага сваёй колькасьцяй расейскага народу. Дык ужо чыста практычныя меркаваньні вызначаюць для гэтае ролі мову расейскую. У гэтым пытаньні няма ніякіх пярэчаньняў.

Але ў кнізе „Вялікі Кастрычнік і расейская мова" пытаньне ролі расейскае мовы сярод нерасейскіх моваў Савецкага Саюзу на гэтым ня вычэрпваецца. У разгляданай намі кнізе расейская мова з усёй катэгарычнасьцяй названая й як мова „міжнацыянальнага яднаньня". Тэза гэтая, як ведама, узьведзеная ў Савецкім Саюзе на ўзвышша бясспрэчнай догмы. А гэтаму ўжо поўнасьцяй супярэчыць іншая партыйная догма, паўтараная ў кнізе „Вялікі Кастрычнік і расейская мова". Гэта догма пра раўнапраўнасьць і роўнасьць усіх моваў Савецкага Саюзу. А гэта ўжо вызначае моцна ўпрывілеяванае палажэньне расейскае мовы, як, калі льга так выразіцца, „надмовы" або „супэрмовы" ў дачыненьні да моваў нерасейскіх, як ейных „падмоваў", або, інакш кажучы, моваў ніжэйшае катэгорыі, практычна дапушчаных адно да выконваньня другарадных і чыста падсобных функцыяў у жыцьці Савецкага Саюзу.

Апошнімі гадамі гэтую няроўнасьць і нераўнапраўнасьць моваў замацоўвае яшчэ іншая агульна абавязваючая догма, што быццам у Савецкім Саюзе ўзьнікла ўжо новая гістарычная супольнасьць людзей — савецкі народ. Пра ўзьнікненьне гэтага „савецкага народу" кажацца ў кнізе „Вялікі Кастрычнік і расейская мова" ня толькі ў цытаваным артыкуле Беладзеда, а й у артыкулах іншых аўтараў кнігі. Але, як пацьвярджае ўся савецкая рэчаіснасьць, гэты „савецкі народ" творыцца на расейскай нацыянальнай базе — на базе расейскай гісторыі, расейскай культуры, расейскай мовы й навет на базе расейскага патрыятызму. А гэта ўжо ў сваім выніку ня што іншае, як зьява поўнае русыфікацыі нерасейскіх народаў, куды больш пэрфідная й крывадушная ў ейнай сяньняшняй змадэрнізаванай форме, чымся навет русыфікацыя ў царскай Расейскай імпэрыі. У артыкуле „Роля расейскае мовы ў разьвіцьці й узбагачаньні іншых моваў народаў СССР", зьмешчаным у кнізе „Вялікі Кастрычнік і расейская мова", Г. П. Іжакевіч зь Кіева піша:

**„Расейская мова — важнейшы стымулятар нутраных магчымасьцяў іншых моваў, што знаходзяцца ў стане ўзаемадзеяньня зь ёю.**

**„Высокая ступень разьвіцьця расейскае мовы, ейная гібкасьць, нязвычайнае багацьце й магутнасьць сродкаў выражэньня, з аднаго боку, наяўнасьць цесных арганічных сувязяў расейскае мовы зь іншымі нацыянальнымі мовамі, ужыцьцяўляных галоўным чынам за пасярэдніцтвам мастацкае літаратуры й спосабаў масавай камунікацыі (радыё, кіно, тэлебачаньне, газэты, журналы й інш.) — з другога боку, зрабілі дабратворны ўплыў на далейшае разьвіцьцё й узбагачаньне нацыянальных моваў народаў Савецкага Саюзу".**

Вось-жа й тут выпрабаваная тактыка савецкае прапаганды: у цэлым сваім артыкуле Іжакевіч, анічуць ня чырванеючы ад сораму, цьвердзіць пра дабратворны ўплыў расейскае мовы на далейшае разьвіцьцё й узбагачаньне нацыянальных моваў народаў Савецкага Саюзу, старанна прамоўчваючы, аднак, адваротны бок гэтае зьявы — русыфікацыю нерасейскіх моваў за пасярэдніцтвам гэнага дабрадзейнага ўплыву.

**Раман Шаруціч**

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**

# НОВАЯ КРУЖЭЛКА ХОРУ "КАЛІНА"

Беларускі Жаноцкі Хор „Каліна" ў верасьні сёлета адзначае 15-цігодзьдзе сваёй мастацка-грамадзкай дзейнасьці. З гэтай нагоды ў хуткім часе выйдзе юбілейная трэйцяя кружэлка беларускіх песьняў, насьпяваная Хорам „Каліна" пад кіраўніцтвам кампазытара Ксавэрага Барысаўца. Акампанье сп-ня Маргарыта Рудак. У гэтую сэрыю ўвойдзе дванаццаць наступных песьняў:

1. „Краю родны", муз. К. Барысаўца, словы А. Бачылы.
2. „Ручнікі", муз. М. Пятрэнкі, словы Веры Вярбы. Запяваюць Р. Касьцюк і Л. Махнюк.
3. „Ляцяць жураўлі", муз. І. Шамо, словы А. Навіцкага.
4. „Жыцьцё нібы мора", муз. К. Барысаўца, словы Я. Золака. Солё А. Махнюк.
5. „Захацела бабуленька разам збагацеці". Народная.
6. „Ліст сына", муз. К. Барысаўца, словы М. Кавыля. Солё Р. Касьцюк.
7. „А ў полі вярба". Народная. Апрацоўка А. Клумава.
8. „Мяцеліца", муз. Шуміліна, словы А. Дзяружынскага.
9. „Ой, шумяць лясы", муз. Ю. Семянякі, словы А. Сіткоўскага.
10. „Не заходзь ты, сонейка", муз. І. Любана, словы А. Русака. Запяваюць Л. Літаровіч, Л. Махнюк, Р. Касьцюк.
11. „25-ты Дзень Сакавіка", муз. К. Барысаўца, словы Я. Золака.
12. „Ты прыйдзі". Раманс. Муз. К. Барысаўца, словы Я. Золака. Солё Л. Махнюк.

У справе кружэлкі зварачацца на адрыс:

XAVERY BORISOVETS
28 Herman St.
SOUTH RIVER, N. J. 08882



# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (у травені 1978) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**1. ЗША:**

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р В. Рамук | $ 105.00 |
| 2. В. і М. М. | 25.00 |
| 3. Л. Кавалёў | 20.00 |
| 4. М. Чатырка | 20.00 |
| 5. М. Казьлякоўскі | 15.00 |
| 6. Аддзел БАЗА ў Кліўленьдзе за клішу | 15.00 |
| 7. Сп-ня Гарох за кляпсыдру | 15.00 |
| 8. Бел. Каард. Камітэт у Чыкага за клішу | 10.00 |
| 9. Я. Чарнэцкі | 5.00 |
| **Разам:** | **$ 230.00** |

**Б. Заплачана прадстаўніку „Беларуса" ў Нью Джэрзі сп. Браніславу Даніловічу:**

| | |
|---|---|
| 1. Рэстаран Братоў Шакаў у Саўт Рывэры | $ 25.00 |
| 2. Парахвія Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парку | 25.00 |
| 3. С. Міровіч | 25.00 |
| 4. А. Даніловіч | 15.00 |
| 5. В. Стома | 15.00 |
| 6. К. Стрэш | 12.00 |
| 7. А. Дарафейчык | 10.00 |
| 8. В. Арцюшэнка | 10.00 |
| 9. А. Шурак | 10.00 |
| 10. К. Міpановіч | 10.00 |
| 11. Ю. Азарка | 10.00 |
| 12. В. Харавец | 10.00 |
| 13. А. Губэрт | 10.00 |
| 14. Ю. Станкевіч | 10.00 |
| 15. Л. Шурак | 10.00 |
| 16. В. Місюль | 10.00 |
| 17. Т. Супрун | 10.00 |
| 18. П. Талмачэвец | 10.00 |
| 19. А. Непеін | 10.00 |
| 20. Л. Галяк | 10.00 |
| 21. А. Евец | 10.00 |
| 22. А. Кузьміч | 10.00 |
| 23. Я. Валодзька | 10.00 |
| 24. В. Пелеса | 10.00 |
| 25. а. Арх. Язэп | 10.00 |
| 26. Л. Галубовіч | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 317.00** |

**II. АЎСТРАЛІЯ:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р А. Беразоўскі | $ 20.00. |

**III. КАНАДА:**

| | |
|---|---|
| 1. К. Акула | $ 10.00. |

**IV. АНГЕЛЬШЧЫНА:**

| | |
|---|---|
| 1. Гай дэ Пікарда | $ 5.00 фунтаў штэрлінгаў |

**Усяго разам у травені 1978: $ 577.00 і 5 фунтаў штэрлінгаў.**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**